4 сакавіка 2016 | № 9 (474)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144
9 772218 214401 10009

«Оскар» як трыбуна

стар. 9

**4** АДЗІН ДЗЕНЬ З ЖЫЦЦЯ БЕЛАРУСКАЙ МАДЭЛІ

У аснове беларускай мадэлі ляжыць тысячагадовы навык канцэнтрацыі ўладай рэсурсаў з мэтай іх наступнага пераразмеркавання. Адмова АП ад аднаасобнага права пераразмяркоўваць рэсурсы азначала б адмову ад асабістай улады

**6** ...І СЛОВА НЕ КАЖАМ ПА-РОДНАМУ

Мы працягваем знаёміць нашых чытачоў з людзьмі розных прафесій, якія ўжываюць беларускую мову ў штодзённым жыцці не па загадзе альбо пры патрэбе, а паводле шчырага жадання і любові да роднай мовы

**10** ШТО ПАГРАЖАЕ АРХІТЭКТУРЫ ЭПОХІ САЦРЭАЛІЗМУ



У Польшчы новая тэндэнцыя — ахова спадчыны сацрэалізму. Разам з вектарам «забыцца і адрынуць» гучаць меркаванні «захаваць і памятаць»

**11** ІГНАТ ГРЫНЯВІЦКІ, АЛЬБО ПРОСТА «КОЦІК»

Сто трыццаць пяць гадоў таму ад атрыманага ранення памёр расійскі імператар Аляксандр ІІ. А праз сем гадзін памёр беларус Ігнат Грынявіцкі, які кінуў бомбу пад ногі цару

# Падмурак міфа пра сацыяльную дзяржаву

## Улады нарэшце прызналі: насельніцтва так ці інакш плаціць 100 працэнтаў за паслугі ЖКГ



Сяргей ПУЛЬША

Адным з патрабаванняў па рэфармаванні эканомікі ад шматлікіх крэдытораў з'яўляецца спыненне «перакрыжаванага субсідавання ЖКГ». Што ж гэта такое?

Усё проста — гэта калі насельніцтва плаціць за ЖКГ нібыта па заніжаных тарыфах. Гэтая «заніжанасць» кампенсуецца за кошт бюджэту і за кошт павышаных тарыфаў на тыя ж паслугі для прадпрыемстваў.

А што такое «завышаныя тарыфы для прадпрыемстваў»? Гэта значыць, што прадпрыемствы за ваду газ, свет, ацяпленне і г.д. плацяць больш, чым насельніцтва. Непазбежна такія выплаты адбіваюцца на дзвюх рэчах.

Па-першае — на сабекошце прадукцыі, у які закладаюць «завышаныя» тарыфы на ЖКГ. Ад гэтага ўзрастае кошт прадукцыі, якую мы потым не набываем, бо задарагая. І танней зганяць за джынсамі ў Беласток ці Смаленск, чым набываць строі ад «Элемы» альбо «Камінтэрна».

Адпаведна, прадукцыя не прадаецца, а «завышаныя паслугі ЖКГ» прадпрыемству плаціць усё роўна трэба. Тады зніжаецца заробак працоўных. То бок — бяруць грошы ў людзей, якія нібыта плацяць па льготных тарыфах за паслугі ЖКГ.

Тое ж самае з «кампенсацыяй з бюджэту». Бюджэт — гэта мы. Гэта мы сплачваем падаткі, з якіх фармуецца бюджэт. Гэта мы ствараем тую прадукцыю і працуем на тых прадпрыемствах, якія пералічваюць у бюджэт грошы. Таму наўпрост ці апасродкавана, так ці інакш, але гэта людзі аплачваюць і «перакрыжаваныя», і наўпроставыя тарыфы ЖКГ. Гэта па-другое.

Нарэшце ўлады гэта прызналі. У эфіры беларускага тэлебачання галоўны кантралёр краіны Леанід Анфімаў паведаміў, што «ў структуры сабекошту затраты на вытворчасць прадукцыі ўключаюць у сябе павышаныя тарыфы на плату тых жа камунальных паслуг, якія насельніцтву адпускаюцца па больш танных цэнах. Астатняе датуе бюджэт. Але бюджэт грошы бярэ не з паветра: гэта падатковыя паступленні ў выглядзе падаходнага падатку, у выглядзе падаткаў ад прадпрыемстваў, на якіх працуюць... усе грамадзяне нашай краіны», — заявіў Анфімаў.

«Самая галоўная праблема заключаецца ў тым, што таннасць ЖКГ — уяўная для нас. Мы ўсё роўна за яе плацім праз недаатрыманы заробак», — дадаў Анфімаў.

Зразумела, што такія «перакрыжаваныя» і цалкам непразрыстыя схемы — шырокае поле для прыпісак і злоўжывання.

Вырашыць гэтую праблему можна толькі скасаваўшы «перакрыжаванне». Але тады, па-першае, можна развітвацца з самой ідэяй «сацыяльнай дзяржавы». Калі тарыфы будуць роўныя, дзяржава ўжо не зможа казаць пра тое, як яна «клапоціцца» пра дабрабыт сваіх грамадзян. Па-другое, гэта ж прыйдзецца заробкі павышаць!

Напярэдадні выбараў 2010 года Аляксандр Лукашэнка казаў, што можа зрабіць заробкі і ў тысячу, і ў дзве тысячы еўра. Але, папярэдзіў ён, тады трэба будзе, каб грамадзяне напоўніцу плацілі па тарыфах: ЖКГ, транспарт, медыцына,




**Вырашэнне пытання з рэформай ЖКГ непазбежна зацягнецца**

адукацыя... «Мы да гэтага не гатовыя», — казаў тады ён.

Выходзіць, што зараз мы ўжо падрыхтаваліся, калі нас збіраюцца прымусіць аплачваць паслугі ЖКГ на 100% (а некаторых і на 120%). Але тады дзе наш заробак — хай не ў дзве, а хаця б у тысячу долараў?

А што адбудзецца, калі ўлада ўсё ж адмовіцца ад перакрыжаванага субсідавання? Настане швах самой сістэме ЖКГ, якой мы яе ведаем зараз. Ужо сёння за святло, ваду і ацяпленне мы плацім водаканалу ды энергетычным прадпрыемствам. А калі людзі будуць абіраць, каму плаціць, і за астатняе? Калі яны будуць задумвацца, што танней: утрымліваць дворнікаў ці звяртацца ў клінінгавую кампанію? Выклікаць электрыка з ЖЭСа альбо «прыватніка»? Калі нарэшце разберуцца, куды сыходзяць грошы на капітальны рамонт дома, калі гэтага рамонту па 40 гадоў не бачна? З чаго тады будуць атрымліваць грошы начальнікі ЖЭСаў, іх намеснікі, дыспетчарскія ЖЭСаўскія службы?

ЖКГ — гэта адзін з падмуркаў міфа пра «беларускую сацыяльную дзяржаву». І таму вырашэнне пытання з рэформай ЖКГ непазбежна зацягнецца — яшчэ невядома на колькі. Зразумела, што ўлада будзе рабіць выгляд, што клапоціцца пра народ.

Напрыклад, самай папулярнай тэмай на тыдні стала распачацце 17 крымінальных спраў «па фактах неабгрунтаванага разліку кошту жыллёва-камунальных паслуг». «Пачынаючы з міністэрства» — удакладніў той жа галоўны правяральшчык Анфімаў.

Аднак гэта — чарговы спектакль з серыі «чыноўнік у кайданках», які нам пакажуць па БТ. Вынікі гэтай кампаніі ніяк не адаб'юцца на лічбах у жыроўках. Прынамсі, у разлікова-касавых цэнтрах пры ЖРЭА Мінска кажуць, што «не атрымлівалі ніякага паведамлення аб неабходнасці перападлічваць плацяжы». «Калі атрымаем, то перападлічым. Але пакуль нічога такога не было», — распавялі «Еўрарадыё» ў розных РКЦ Мінска.

Ну і якая нам карысць ад таго, што чыноўнікаў пасадзяць? Мяняць трэба не чыноўнікаў ЖКГ, а ўсю сістэму.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ГОМЕЛЬ. Кастуся Жукоўскага зноў выклікаюць у міліцыю

**Па выкліках у міліцыю гомельскага журналіста-фрылансера можна вывучаць геаграфію: Карма, Калінкавічы, Ветка, Гомель, Жлобін, Мазыр.**

Жукоўскаму патэлефанаваў прадстаўнік Мазырскага РАУС і прапанаваў прыехаць у райцэнтр для складання адміністрацыйнага пратаколу за журналісцкую працу без акрэдытацыі, незаконны выраб прадукцыі СМІ (артыкул 22.9 КаАП). «Я адмовіўся ехаць. Калі Лукашэнка загадаў праз тэлевізар звольніць з гомельскага СІЗА забойцаў з Жыткавіцкага раёна, то іх бясплатна з СІЗА везлі дахаты, яшчэ і пад аховай. Чаму я за свае грошы павінен ехаць у Мазыр, яшчэ для таго, каб там на мяне ж склалі пратакол?» — пракаментаваў Жукоўскі. У Мазыры ён здымаў відэа пра праблемы мясцовага спіртзаводу, які мае складаную фінансавую сітуацыю.

Ён лічыць, што такая пільная ўвага да яго з боку ўлады і міліцыі — мэтанакіраваны пераслед менавіта яго за актыўную грамадскую і фрылансерскую дзейнасць. «Магчыма, у сваёй працы я зачапіў мафіёзныя кланы, інтарэсы «сям'і», таму мяне так пераследуюць. Прашу міжнародную супольнасць звярнуць увагу на пераслед за журналісцкую дзейнасць, бо ўнутры краіны, як мы бачым, справядлівасці не знайсці. На фоне адмены санкцый такія дзеянні ўлады выглядаюць як здзек. Гэта палітычны пераслед», — мяркуе фрылансер.

Агулам штрафы Кастуся Жукоўскага на дадзены момант перавысілі 70 мільёнаў рублёў.

### СЛУЦК. Пракуратура не распусціць Савет дэпутатаў

**Пракуратура Слуцкага раёна не пабачыла ў дзеяннях старшыні Слуцкага раённага Савета дэпутатаў Віктара Ражанца падставаў для прыняцця мераў пракурорскага рэагавання і ініцыявання роспуску Савета.**

Нагадаем, раней спадар Ражанец адмовіўся ўнесці на разгляд сесіі Савета дэпутатаў праект рашэння мясцовага праваабаронцы Віталя Амяльковіча «Аб свабодзе мірных сходаў». Гэткую адмову праваабаронца палічыў грубым парушэннем закона «Аб мясцовым самакіраванні», што з'яўляецца падставай для роспуску Савета дэпутатаў.

«Пракуратура сцвярджае, што мой праект рашэння не адпавядаў патрабаванням закона «Аб нарматыўных прававых актах», таму, маўляў, дзеянні старшыні Савета былі правамернымі. Цікава, што сам спадар Ражанец у сваёй адмове ад разгляду праекта майго рашэння на неадпаведнасць праекта гэтаму закону аніяк не спасылаўся. У любым разе, наша мэта — не роспуск Савета, а прадстаўленне грамадзянам рэальнай магчымасці карыстацца сваім правам на мірныя сходы. Таму цяпер будзем чакаць адказу з абласнога Савета. Калі ж і там нам не захочуць ісці насустрач, дык будзем звяртацца ў суд», — пракаментаваў рашэнне пракуратуры Віталь Амяльковіч.

### МАГІЛЁЎ. Куды знікла камера?

**Зміцер Салаўёў просіць расследаваць знікненне яго відэакамеры ў КДБ. Адпаведную заяву сябра Сойму Партыі БНФ накіраваў у Следчы камітэт Магілёва.**

Зміцер адзначае, што прайшло ўжо больш за 5 гадоў, а канфіскаваную відэакамеру яму так і не вярнулі.

— 19 снежня 2010 года я быў на Плошчы ў Мінску і здымаў усё, што там адбывалася, у тым ліку, як адбываўся разгон дэманстрантаў. Па вяртанні ў Магілёў да мяне з вобшукам наведаліся супрацоўнікі КДБ, якія канфіскавалі кампутар, флэшкі і відэакамеру з касетай. Кампутар і флэшкі мне вярнулі недзе праз паўгады, а вось лёс відэакамеры з касетай не вядомы дагэтуль, — распавядае Зміцер Салаўёў. «Я не адмаўляюся аддаць відэазапіс, аднак у мяне яго забралі разам з відэакамерай. Я пісьмова звярнуўся ў КДБ, каб мне вярнулі відэакамеру. Прыйшоў адказ, што камеры ў іх няма, і яна перададзена ў Следчы камітэт Мінска, які займаецца гэтай справай», — працягвае Зміцер Салаўёў.

Актывіст кажа, што яму не так даўно прыйшоў адказ са Следчага камітэта Мінска, у якім паведамляецца, што відэакамера як доказ па справе не праходзіла, і яны накіравалі ліст у КДБ з пытаннем, куды яна падзелася.

Салаўёў вытрымаў месяц для адказу, аднак яго так і не дачакаўся. Гэта і прымусіла яго напісаць заяву ў Следчы камітэт аб узбуджэнні крымінальнай справы адносна КДБ, што яны скралі яго відэакамеру.

**Паводле сайта spring96.org**

# Чыноўнікі баяцца журналістаў

Генадзь КЕСНЕР

**Дарэмна журналісты чакалі 2 сакавіка ў Нацыянальным прэс-цэнтры высокіх чыноўнікаў, адказных за сістэму жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі. Ніхто з іх не з'явіўся.**

Пытанне росту тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі з'яўляецца, бадай, ці не самым важным сёння. І супрацоўнікі як дзяржаўных, гэтак і недзяржаўных СМІ, што прыехалі ў Нацыянальны прэс-цэнтр, жадалі пачуць канкрэтныя адказы на канкрэтныя пытанні, прынамсі, ад намесніка міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі Алега Паскробкі.

Па словах начальніка аддзела арганізацыі інфармацыі Нацыянальнага прэс-цэнтра Аляксея Цыбулькі, Паскробка мусіў з'явіцца з хвіліны на хвіліну. Але на галаву чыноўніка нібыта звалілася «экстраная чарговая нарада па пытаннях жыллёва-камунальных паслугаў», і ён мусіў быць там.

Карацей, атрымалася чарговая «казка пра згублены час».

З іншага боку, відавочна, што прадстаўнікам міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі няма чаго сказаць журналісцкай супольнасці – што афіцыйнай, што недзяржаўнай. Яны, гэтыя чыноўнікі, не могуць патлумачыць, з якой «балды» ўзняліся паслянавагоднія тарыфы на камуналку, ад якіх едзе дах амаль ва ўсіх грамадзян Сінявокай, хто адказны за правалы ў гэтай галіне, што зроблена дзеля выканання патрабаванняў афіцыйнага лідара прадаставіць яму падрабязныя разлікі па жыллёва-камунальных паслугах да 1 сакавіка. А ці былі прадастаўлены Лукашэнку гэтыя разлікі? Невядома, прынамсі, да гэтай хвіліны.

Адсутнасць на запланаванай і пацверджанай прэс-канферэнцыі адказных чыноўнікаў можа сведчыць пра тое, што ў гэтай галіне гаспадаркі зараз паніка. З аднаго боку, трэба выконваць патрабаванні кіраўніка дзяржавы і, адпаведна, пералічваць і зніжаць тарыфы. З іншага боку, а што рабіць далей? Відавочна, што адказу на гэтыя пытанні ў міністэрстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі, як і цалкам ва ўрадзе, ніхто не знаходзіць.

Нічога дзіўнага, бо ў Беларусі ўжо даўно склалася такая сістэма, якая сама не можа адказаць нават на пытанне, навошта яна існуе.

# Безвыніковыя перамовы

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**У офісе АГП эксперты ў чарговы раз абмяркоўвалі праблемы ўзаемаадносінаў прадпрымальнікаў і ўрада.**

«17 снежня 2015 года мы правялі канферэнцыю прадпрымальнікаў, сабраўшы тых, хто разумее, што праблемы ІП сістэмныя, і вырашыць іх без рашэння палітычных пытанняў практычна немагчыма, — распавёў намеснік старшыні АГП Леў Марголін. — Былі сфармуляваныя 11 патрабаванняў, якія ў выпадку прыняцця іх уладамі маглі вырашыць гэтыя праблемы». І вось днямі аўтары звароту атрымалі з Мінэканомікі адказ на 11 старонках ні пра што.

Эксперты прыйшлі да высновы, што зразумець дзеянні таго ж Міністэрства эканомікі — як і ўраду ў цэлым — можна, калі асэнсоўваць, як улада наогул успрымае прадпрымальнікаў. З пункту гледжання ўлады, ІП — гэта нейкая катэгорыя, якая для Беларусі носіць пераходны характар. Яны з'явіліся, пагандлявалі, нешта зарабілі, і далей павінны былі «расслаіцца»: той, хто зарабіў годныя грошы — ідзе далей, у «вялікі» бізнес. А хто зарабіць не змог — сыходзіць «на завод». На гэтым усё. Але ў Беларусі ІП, якія гандлююць на рынках, знайшлі сваю нішу, — а дзяржслужбоўцы гэтага не разумеюць. І для чыноўнікаў такія ІП застаюцца «нецывілізаванай формай эканамічнай дзейнасці».

Дагэтуль адкрытае пытанне: ці ёсць наогул сэнс у перамовах дробных прадпрымальнікаў з урадам? Бо ўстаноўку «ліквідаваць ІП як клас» даў асабіста Аляксандр Лукашэнка. І ў такой сітуацыі службоўцы ніжэйшага ўзроўню рэальна зрабіць нічога не могуць — нават калі б яны і хацелі дапамагчы. Але рэгіянальныя лідары прадпрымальніцкага руху Ірына Яскевіч і Анатоль Змітровіч заявілі, што дыялог усё ж мае сэнс. Хоць, верагодна, вельмі хутка самі ў гэтым расчаруваліся.

Справа ў тым, што дыскусія, распачатая ў офісе АГП, нечакана атрымала развіццё ў той жа дзень, на чарговым (ужо пятым) пасяджэнні працоўнай групы ўрада і грамадскіх аб'яднанняў ІП па вырашэнні спрэчных пытанняў, якія ўзніклі ў сувязі з Указам №222.

Там напрыканцы абмеркавання намеснік міністра па падатках і зборах Міхаіл Расолька заявіў, што ніякай «амністыі», на якой настойвалі прадстаўнікі ІП, заканадаўства не прадугледжвае. Гэтым ён паклаў канец абмеркаванню: усе ранейшыя напрацоўкі, якія былі накіраваныя на пошук кампраміснага рашэння, усе магчымасці дамовіцца апынуліся перакрэсленымі.

Сутнасць «амаль дасягнутых» дамоваў была ў тым, што дзяржава абвесціць адміністрацыйную амністыю для тых ІП, якія гандлююць таварам, які быў закуплены з 1 ліпеня 2014 года па люты 2016-га і за які быў выплачаны ўвазны ПДВ. Таксама прапаноўвалася спыніць ужо распачатыя адміністрацыйныя справы супраць прадпрымальнікаў і спрасціць схему працы для гандляроў, якія ўвозяць дробныя партыі тавару. Канешне, прадстаўнікі Мінэканомікі перыядычна выступалі супраць.

«Усю нашу прадуктыўную да гэтага працу разбурыла падатковая інспекцыя, — распавяла Ірына Яскевіч. — Мне нават здалося, што намміністра эканомікі Касцевіч і намміністра гандлю Наркевіч былі ў некаторай разгубленасці ад той непрымірымай пазіцыі, якую заняла падатковая інспекцыя. Мы разумеем, адкуль раптам паўстала такое рашэнне. Яны баяцца, што паляцяць галовы. Справа ў тым, што людзі, якія завозілі тавар, рабілі гэта па рэкамендацыі падатковай, якія тая давала ў 2014 годзе. Тавар завезлі, а з кастрычніка 2015-га падатковая інспекцыя змяніла патрабаванні да суправаджальных дакументаў, паставіўшы пад пагрозу канфіскацыі тавару тых прадпрымальнікаў, якія выканалі іх рэкамендацыі».

Зрэшты, мяркуючы па словах Ірыны Яскевіч, прадпрымальнікі ўсё яшчэ не гатовыя здацца. «Мы будзем змагацца за свае правы. У гомельскіх прадпрымальнікаў ужо ёсць атрад самаабароны. Мы ўсе аргументы вычарпалі. Хуткім часам правядзем свае зборы на месцах і будзем выпрацоўваць адзіную пазіцыю. Паўтары гады, якія сышлі на спробы адаптацыі ўказу 222, кажуць самі за сябе — ён непрацоўны», — заявіла яна.

# Скаргу не задаволілі

**Мінскі гарадскі суд не задаволіў скаргу журналіста партала tut.by Паўла Дабравольскага.**

Месяц таму ён быў аштрафаваны судом Фрунзенскага раёна на 9,45 мільёна рублёў, нібыта за лаянку матам і невыкананне «законных патрабаванняў службовай асобы».

Па словах журналіста, насамрэч у будынку суда яго збілі супрацоўнікі міліцыі. Следчы камітэт праводзіць праверку, пра яе выніку пакуль нічога не вядома.

Дабравольскі прасіў суд адмяніць штраф, паколькі суд першай інстанцыі адмовіўся выслухаць сведкаў з яго боку. Да таго ж у судовай пастанове ёсць супярэчнасці. У судзе Дабравольскі таксама заявіў, што ніякіх відэа- ці фотадоказаў здзяйснення ім правапарушэння няма. Тым не менш, суддзя вырашыў пакінуць прысуд без зменаў. Журналіст заявіў, што гэта яго не здзівіла. Ён збіраецца абскардзіць пастанову ў Вярхоўным судзе, інфармуе tut.by.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Паверце слову чыноўніка

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Колькі разоў нам казалі, што павышэнне пенсійнага ўзросту будзе абмеркавана, абяцалі ледзьве не рэферэндум з гэтай нагоды! А ў выніку пенсійны ўзрост фактычна ўжо паднялі ціхенька і незаўважна. Праўда, пакуль што для асобных катэгорый насельніцтва. Але потым яны скажуць: «А чым іншыя горш?»**



Фота www.pravdamoskvy.ru

З 1 студзеня 2016 года мінімальны працоўны стаж, неабходны для прызначэння працоўнай пенсіі па ўзросце і за выслугу гадоў, складае 15 гадоў і шэсць месяцаў. Далей штогод ён будзе паступова павялічвацца да неабходных 20 гадоў. Гэта замацавана ўказам кіраўніка краіны №534 «Аб пытаннях сацыяльнага забеспячэння». У дакуменце адзначаецца, што ўказ прыняты ў мэтах адаптацыі сацыяльнага забеспячэння да зменлівых сацыяльна-эканамічных умоў. Нагадаю, што да 1 студзеня мінімальны стаж для прызначэння працоўнай пенсіі ў Беларусі складаў 15 гадоў.

І калі да моманту выхаду на пенсію ў грамадзяніна не будзе хапаць стажу працы, тады тэрмін выплаты пенсіі адсоўваецца на пяць гадоў: мужчынам — да 65-гадовага ўзросту, жанчынам — да 60-гадовага.

У Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны патлумачылі, што гэтая навацыя павінна павысіць матывацыю беларусаў працаваць доўга і легальна. А насамрэч, гэта проста павышэнне пенсійнага ўзросту «для лайдакоў». Раней для гэтых дармаедаў падатак прыдумалі, але нешта не надта ён спрацаваў. А значыць, калі не працуе падатак — пенсію плаціць не будзем. Правільна?

Цікава, што будзе, калі і «дадатковых» пяці гадоў не хопіць, каб набраць патрэбны стаж? Бо з агульнага часу працы выкінулі вучобу ва ўніверсітэце, службу ў войску, дэкрэтныя адпачынкі... У выніку журналісты нават знайшлі жанчыну, якая дэ-факта мела 25 гадоў стажу, а пасля ўсялякіх вылікаў у яе засталося толькі 9 гадоў.

На месцы маладых татаў і мамаў, асабліва шматдзетных, (бо 3–4 дзіцяці — гэта мінус 9–12 гадоў стажу) я б прынёс дзяцей і пакінуў бы іх міністру працы і сацыяльнай абароны Мар'яне Шчоткінай. Хай яна з імі сядзіць, пакуль бацькі стаж зарабляюць.

Сапраўды, не вядома, што ў такіх варунках рабіць з нашай дэмаграфічнай праграмай. І без таго падчас цяперашняга крызісу пракарміць сям'ю не так проста. А тут яшчэ і ўлада, не ўносячы час дэкрэтнага ў стаж, проста дэматывуе нараджаць новых людзей. Цікавы, канешне, выбар: альбо дзіцё, альбо пенсія... І пасля гэтага хтосьці называе дзяржаву «сацыяльнай»?

Затое класны падарунак зроблены тым, хто не хоча трымаць зброю ў руках. Канешне, закон пра альтэрнатыўную службу — драпежніцкі: тэрміны службы завялікія і грашовае ўтрыманне мізэрнае. Затое прызыўнік можа працаваць у сацыяльных установах. Так, працаваць за жабрацкі заробак — але ж тры гады ў стаж ідзе!

І, дарэчы, дзе сацыяльная справядлівасць? Чаму афіцэрам за службу ў войску стаж ідзе, а шарагоўцам — ані кропелькі? Давайце з афіцэраў таксама здымем гэта шчасце: служба ў войску не прыроўніваецца да стажу. І тады паглядзім, што будзе з нашым войскам і Міністэрствам абароны.

«Сілавікоў» увогуле можна перавесці на самаакупнасць. Першыя крокі ў гэтым ужо зробленыя. Міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч распавёў на тыдні, што стаўленне міліцыі да несанкцыянаваных вулічных акцый «некалькі трансфармавалася». Апазіцыянераў, якія спрабуюць «пашырыць прастору свабоды», перасталі біць дубінкамі па галаве. Замест гэтага на завадатараў мітынгаў і шэсцяў завочна складаюць пратаколы, а іншым разам — і завочна судзяць, накладаючы вялікія штрафы.

«Мы знайшлі прымальны з пункту гледжання дзяржаўнай улады і цывілізаваны з пункту гледжання міжнародных патрабаванняў алгарытм нашых дзеянняў», — растлумачыў генерал Шуневіч на прэс-канферэнцыі 1 сакавіка ў Мінску.

Дэ-факта гэта значыць, што ўладам можна скараціць АМАП, пашырыўшы замест яго службу дакументацыі. Усё ж эканомія. Да таго ж сабраныя з апазіцыянераў штрафы можна якраз пусціць на заробак супрацоўнікам. І, канешне ж, на «апшаджальную» пенсію.

Тым больш, што скарачэнне АМАП нічым не пагражае. Беларускія апазіцыянеры настолькі лагодныя, белыя і пухнатыя, што нават на масавых шэсцях скрыжаванні пераходзяць выключна згодна з правіламі дарожнага руху — на зялёнае святло.

Увогуле, «сілавікі» і так шмат чым зарабляюць. Не кажу пра службу міліцыі «Ахова», якая ставіць на сігналізацыю кватэры і дамы. На тыдні ў Мінску пачаўся буйны працэс па самай гучнай у гісторыі Беларусі справе аб распаўсюджванні наркотыкаў. На лаве падсудных 17 чалавек. Сярод іх былыя работнікі КДБ і МУС, і нават былы супрацоўнік аднаго самага тыражнага дзяржаўнага выдання. КДБ нават выступіў са спецыяльным абвяржэннем, што двое з падсудных «не з'яўляюцца дзейснымі супрацоўнікамі» гэтага ведамства. Значыць, на момант гандлю наркотыкамі з'яўляліся?

Ну і яшчэ крышачку з новых лічбаў. Нашая сацыяльная дзяржава такая сацыяльная, што, аказваецца, за рысай беднасці жывуць паўмільёна беларусаў. А дакладней — 503 тысячы 431 чалавек. І гэта не нейкія «варожыя» падлікі літоўска-беларускіх сацыялагічных інстытутаў, а афіцыйныя дадзеныя Белстату.

Часцей за ўсё за мяжой беднасці аказваюцца сем'і з дзецьмі да 18 гадоў. Напрыклад, у чацвёртым квартале 2015 года яны складалі 7,8% ад усіх хатніх гаспадарак гэтай катэгорыі. Менш за ўсё тых, чый месячны даход не дацягвае да бюджэту пражытковага мінімуму (БПМ), — сярод «адзіночак» (1,5% ад гэтай катэгорыі). Сярод бяздзетных сем'яў гэты паказчык складае 1,8%.

Калі глядзець статыстыку па рэгіёнах, то менш за ўсё хатніх гаспадарак за мяжой беднасці ў кастрычніку-снежні мінулага года было ў Мінску (0,8%) і Гродзенскай вобласці (2,6%). Лідзіруюць па гэтым паказчыку тры вобласці — Гомельская (5,6%), Брэсцкая (5,4%) і Магілёўская (5%).

Пры гэтым сярэднедушныя наяўныя рэсурсы ў 63,5% беларусаў (6 мільёнаў 31,7 тысячы чалавек) у чацвёртым квартале 2015 года не перавышалі 4 мільёны рублёў у месяц.

Хтосьці яшчэ верыць у «сацыяльную дзяржаву»?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Віктар Усціновіч



**Леанарда дзі Капрыё за фільм «Той, што выжыў» атрымаў «Оскара». Шарагові магіляўчанін здымае ўласны варыянт гэтага фільма.**

Віктар Усціновіч спрабуе пражыць у Беларусі на 3 мільёны рублёў у месяц. «Тры мільёны рублёў — гэта мой заробак на асноўнай працы. Большасць маіх знаёмых таксама атрымліваюць столькі ж. Мне проста стала цікава, ці змагу я сапраўды пражыць на адну зарплату», — тлумачыць прычыну свайго ўчынку.

30-гадовы магілёвец адзначае, што ідэя праверыць сябе такім чынам паўстала ў яго некалькі месяцаў таму. Пры гэтым тады 3 мільёны рублёў былі эквівалентныя 200 доларам. Сёння гэтая ж сума раўняецца 140 доларам.

«Тады я разумеў, што пражыць на 200 долараў магчыма. Зараз я зусім не ўпэўнены ў гэтым, асабліва пасля аплаты «камуналкі». Я рэальна разумею, што хутка буду або галадаць, або есць снег. Ці як Беар Грылс — перайду на падножны корм», — смяецца мужчына.

Эксперымент па выжыванні завершыцца ўвечары 9 сакавіка. Першае, што зробіць герой і аўтар праекта пасля яго заканчэння — купіць велізарную шакаладку і з'есць яе ў адзіноце. А пакуль ролікі «выжывання» выкладваюцца ў інтэрнэце.

## Сяргей Міхалок



**Мінскія ўлады не выдалі гастрольнае пасведчанне на заяўлены канцэрт гурта «Brutto» ў Палацы спорту на 27 мая.**

Заява гурта разам з тэкстамі была разгледжаная і ў выніку не задаволеная. Нібыта дата, якую дала пляцоўка, у выніку апынулася занятай мантажом абсталявання. «Ад ідэі правядзення канцэрту ў Мінску мы не адмаўляемся — цяпер узгаднем іншую дату», — паведаміў прадзюсар гурта Антон Азізбекян.

Сяргей Міхалок з гэтай нагоды запісаў чарговы відэазварот, у якім выказаў упэўненасць, што канцэрт «Brutto» ў Мінску абавязкова адбудзецца. Дадаткова праз афіцыйны акаўнт гурту лідар «Brutto» заявіў: «Я пяць гадоў не выступаў у Беларусі! Гэта велізарны тэрмін — цэлая эпоха! Пайшоў у іншы свет мой бацька, вырас і ажаніўся старэйшы сын, нарадзіўся Макар... Я вельмі хачу прынесці карысць Радзіме, пакуль я яшчэ ў форме. Маё пакліканне — быць на сцэне. Я гэта давёў сваім 25-гадовым творчым шляхам і заслугоўваю права на ўвагу публікі. Мой творчы патэнцыял цяпер на пад'ёме — «Brutto» дапамагае рэалізоўваць любыя задачы. Засталося ўвасобіць самую запаветную мару — граць канцэрты ў Беларусі. І я ведаю, што гэтае жаданне супадае з жаданнямі тысяч землякоў. Наша возьме!!!»

Бліжэйшыя канцэрты «Brutto» пройдуць ва Украіне 4 сакавіка (Кіраваград), 5 сакавіка (Барысполь). 12 сакавіка разам з гуртом «Dzieciuki» гурт Міхалка дае супольны канцэрт у Лядовым палацы ў Беластоку.

## Надзея Скардзіна



**Беларуская біятланістка выйграла гонку пераследу на чэмпіянаце Еўропы ў расійскай Цюмені і стала чэмпіёнкай Еўропы.**

Нягледзячы на два штрафныя кругі, зароблены на заключнай стральбе, цяперашні лідар зборнай Беларусі Надзея Скардзіна здолела апярэдзіць усіх канкурэнтак і фінішавала першай з вынікам 30 хвілін 01,7 секунды. На другім месцы — нямецкая біятланістка Каралін Хорхлер. Бронзавы медаль у Інгрыд Тандрэволд з Нарвегіі

Як адзначыла пасля гонкі Надзея Скардзіна, адчувала яна сабе нашмат лепш, чым у спрынце, «дзе самаадчуванне было няважным». «У мяне атрымалася няпростая дарога з Масквы ў Цюмень з-за таго, што было нялётнае надвор'е. Але пасля спрынту я добра выспалася і была ўпэўненая ў сабе. Я задаволеная, што ў мяне ўсё атрымалася. Я прапусціла этапы Кубка свету ў Канадзе і ЗША. Замест гэтага правяла трэніровачны збор. Але старты перад чэмпіянатам свету ўсё роўна былі патрэбныя, таму вырашыла выступіць у Цюмені на кантынентальным форуме. Гэта выдатная падрыхтоўка перад чэмпіянатам свету», — распавяла Скардзіна.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Адзін дзень з жыцця беларускай мадэлі




**Беларуская мадэль даядае савецкую індустрыяльную спадчыну, патэнцыял якой як крыніцы эканамічнага росту вычарпаў сябе яшчэ ў 70-х гадах мінулага стагоддзя.**

8 лютага адзіны палітык (АП) прыняў з дакладамі міністра замежных спраў і старшыню КДБ. Вынікам першай сустрэчы стаў «шэраг канкрэтных даручэнняў па рэалізацыі знешняй палітыкі на ключавых кірунках», вынікам другой — пазітыўная ацэнка дзейнасці «па барацьбе з карупцыяй, а таксама па забеспячэнні захавання інтарэсаў краіны ў сферы эканомікі і фінансаў», як адзначаецца ў афіцыйных прэс-рэлізах.

Праца беларускага МЗС у рэжыме Міністэрства гандлю даўно ўжо нікога не здзіўляе. Але жыццё не стаіць на месцы. У поўнай адпаведнасці з апошнім варыянтам перадвыбарчай праграмы АП, у пятай пяцігодцы чыноўнікам трэба будзе перайсці ад мадэрнізацыі вытворчасці да мадэрнізацыі кіравання. «Менавіта тады (тут я цытую перадвыбарчую праграму) мы атрымаем рэальную аддачу ад мадэрнізацыі — заваюем новыя рынкі, прададзім прадукцыю з прыбыткам і годна заплацім кожнаму працаўніку».

Найважнейшы элемент мадэрнізацыі кіравання — пашырэнне зоны адказнасці МЗС. Інакш чым можна растлумачыць абмеркаванне з яго кіраўніком актывізацыі работы ўрада па засваенні $7 мільярдаў кітайскага крэдыту. «Мы маглі б прафінансаваць вельмі многія праекты», — растлумачыў кіраўніку дыпламатычнага корпуса АП.

Пашырылася зона адказнасці і ў КДБ. Цяпер цэнтр цяжару ў працы нашчадкаў «Жалезнага Фелікса» перанесены на эканамічныя пытанні. Ад высокіх вынікаў па лініі разведкі і контрразведкі да выкрыцця сістэмных праблем дзейнасці розных сфер эканомікі і асобных галін — такі сёння дыяпазон беларускіх рыцараў плашча і кінжала. На жаль, «іншыя сілавыя структуры значна адстаюць у гэтым плане ад КДБ».

### Чыноўнікі vs. бізнесмены

Уявім на хвіліну, што 7 кітайскіх мільярдаў стануць рэальнасцю. З якім знакам — плюсам ці мінусам — будуць вынікі іх інвеставання ў беларускую мадэль?

Звернемся да статыстыкі. За 2015 год інвестыцыі ў асноўны капітал скараціліся на 15,2%, а затраты на набыццё машын, абсталявання, транспартных сродкаў — на 25,2%. Што ж за прычына інвестыцыйнай катастрофы, якая працягваецца ўжо не першы год? Адсутнасць грошай? Магчыма. Аднак усе фінансавыя патокі, у тым ліку і інвестыцыйныя, у беларускай мадэлі рэгулююцца адміністрацыйнымі метадамі. Чыноўнік-інвестар, у адрозненне ад бізнесмена-інвестара, рызыкуе не ўласнымі, а «дармовымі» грашыма.

Вынік такога інвеставання АП пераканаўча апісаў у Пасланні–2014: «Не раз мы з вамі пераконваліся: там, дзе мадэрнізацыя праводзіцца за дармовыя дзяржаўныя сродкі, яна аказваецца ў разы даражэй, чым у прыватніка, калі ён робіць за свае ўласныя грошы».

Тым не менш гэтыя «разы» не астудзілі інвестыцыйны запал АП. Сітуацыя парадаксальная, але безальтэрнатыўная. У аснове беларускай мадэлі ляжыць тысячагадовы навык канцэнтрацыі рэсурсаў цэнтральнай уладай з мэтай іх наступнага пераразмеркавання. Адмова АП ад аднаасобнага права пераразмяркоўваць рэсурсы азначала б адмову ад асабістай улады. Таму бессэнсоўна чакаць адэкватных высноў з мадэрнізацыі дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў.

Інвестыцыйныя магчымасці чыноўнікаў вызначаюцца колькасцю вылучаных ім рэсурсаў. Інвестыцыйныя магчымасці бізнесменаў, у першую чаргу, — наяўнасцю перспектыўных праектаў. Каб зразумець гэту азбуковую ісціну, звернемся да досведу Расіі, і дапаможа тут галоўны эканаміст «Альфа-банка» Наталля Арлова: «Цяпер ніхто не кідаецца будаваць заводы, таму што мы 15 гадоў былі ў мадэлі вельмі хуткага росту спажывання. Цяпер гэта мадэль вычэрпаецца, і нас чакае яшчэ пэўная колькасць гадоў сціскання або, у лепшым выпадку, вельмі павольнага росту спажывання. Ніхто не гатовы ісці ў такой сітуацыі па рызыку. Інвестары гатовыя прыходзіць толькі на рынак, які абяцае бум і які будзе расці. Усё пытанне ў перспектывах росту, але яны пакуль не ўражваюць».

А які сегмент рынку сёння абяцае бум? Можа, харчовы? Мода на электронныя «цацкі» як прыйшла, так і сыдзе, а есці хочацца заўсёды. 29 студзеня 2015 года на сустрэчы з прадстаўнікамі беларускіх і замежных СМІ АП нагадаў пра актуальнасць харчовага пытання, «таму што нават у Расіі попыт на прадукты харчавання, нашае харчаванне, вельмі вялікі».

Прайшоў год. І што мы маем па факце? У 2015 годзе аб'ём экспарту прадуктаў харчавання склаў $ 4,4 мільярда, што на $ 1,2 мільярда менш за ўзровень 2014 года. На пасяджэнні прэзідыума Саўміна 2 лютага прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў патлумачыў такі вартыя жалю вынік «неспрыяльнай кан'юнктурай знешніх рынкаў». Падвяла «наша Расія». У чарговы раз падвяла.

### Дрэнная навіна

Спецыялісты, чые веды выходзяць за межы азбуковых ісцін, сцвярджаюць, што крызісы бываюць трох тыпаў: цыклічныя, структурныя і выкліканыя знешнімі шокамі. З чым мы маем справу цяпер? Прапаную адказаць на гэтае пытанне метадам выключэння.

Цыклічныя крызісы развіваюцца па стандартнай схеме: крызіс — дэпрэсія — ажыўленне — пад'ём. Яны спараджаюцца натуральнымі для рынкавай эканомікі дыспрапорцыямі, самая вядомая з якіх — перавытворчасць тавараў.

Цыклічныя крызісы, як правіла, працягваюцца 7–10 гадоў. Але пра якую цыклічнасць у рамках беларускай мадэлі можна весці размову? За два дзесяцігоддзі яна так і не змагла перайсці ад каманднай да рынкавай эканомікі.

Можа, мы сталі ахвярай сусветнага эканамічнага цыкла? Але сусветная эканоміка ў 2015 годзе вырасла на 3,5%, у той час як беларуская скарацілася на 3,9%. Таму цыклічнасць давядзецца адкінуць.

А як наконт знешніх шокаў? Іх згубны ўплыў на беларускую мадэль у АП сумневаў не выклікае. Звернемся да тэксту Паслання–2015: «Прычыны складанай сітуацыі ў эканоміцы відавочныя: санкцыі супраць галоўнага нашага партнёра, падзенне цэнаў на нафту, дэвальвацыя расійскага рубля, звужэнне расійскага рынка».

Пераканаўча? Цалкам пераканаўча для тых, хто не жадае ці не здольны думаць крытычна. Ужо ў першым годзе чацвёртай пяцігодкі тэмпы рост ВУП апынуліся амаль у два разы ніжэй за планавыя: план — 109–110%, факт — 105,3%. А за I квартал 2014 года, г. зн. да пералічаных у Пасланні–2015 складанасцяў, яны знізіліся да 101,2%.

Знешнія шокі выступілі ў ролі паскаральніка, а не прычыны зніжэння ВУП. Такім чынам, у сухім астатку мы атрымалі структурны крызіс. Гэта дрэнная навіна. Але шыла ў мяху не схаваеш. За што ні возьмешся — усюды структурныя дыспрапорцыі. Паміж сыравіннымі і апрацоўчымі сектарамі эканомікі. Паміж дзяржаўным і недзяржаўным сектарам, манапольным і канкурэнтным. Сацыяльная сфера — дыспрапорцыя паміж колькасцю занятых у эканоміцы і колькасцю пенсіянераў. У нас вельмі вялікая ўдзельная вага сацыяльных выплат у агульных даходах насельніцтва — 23%. Такога нават у СССР не было. Вельмі нязначная доля прыбытку ад прадпрымальніцкай дзейнасці ў даходах насельніцтва — 8,2%. І гэта дыспрапорцыя. Спіс лёгка можна працягнуць.

Цыклічныя крызісы таксама спараджаюцца дыспрапорцыямі, але дыспрапорцыямі, уласцівымі рынкавай эканоміцы. Дыспрапорцыі структурных крызісаў — следства няправільнай сацыяльна-эканамічнай палітыкі і спазнення з прыняццем неабходных рашэнняў.

У якасці прыкладу звернемся да працэнту даходу ад прадпрымальніцкай дзейнасці ў даходах насельніцтва. 8,2% — гэта велічыня, унутрана ўласцівая рынкавай эканоміцы, ці гэта вынік палітыкі?

Цэны на нафту могуць заўтра пайсці ўверх, Захад здыме санкцыі «супраць галоўнага нашага партнёра», але структурныя дыспрапорцыі ад гэтага не знікнуць, і самі па сабе яны не рассмокчуцца.

### Галоўная ўмова выжывання

Каб выправіць структурныя дыспрапорцыі, неабходны час. Немагчыма за лічаныя месяцы ўзяць і падняць долю малых прадпрыемстваў да 60–70%, як у развітых краінах. Але пачынаць трэба з разумення прыроды крызісу. На жаль, на гэтай стадыі праца ў Беларусі і забуксавала. Нескладана здагадацца, па чыёй віне.

«Занадта шмат сёння кажуць і пішуць пра рэформы, пра структурныя рэформы, і ніхто не сказаў, а што гэта за рэформы», — заявіў АП 6 лістапада на цырымоніі прыняцця прысягі. Дзіўная заява. Такое ўражанне, што эканамічны блок «вертыкалі» складаецца з легендарных «партызанаў на допыце». У іх пытаюць — яны не адказваюць.

Праблема, аднак, палягае ў іншай плоскасці. Рэальныя структурныя рэформы не могуць быць праведзены ў рамках беларускай мадэлі. АП гэта выдатна разумее. Адсюль стандартны набор страшылак: зламаюць палітычны лад, падзеляць-паражуць народную ўласнасць і раздадуць. Зразумела, што з карыслівых меркаванняў, бо «за гэтыя рэформы сёй-той у свеце гатовы шмат заплаціць».

Але калі структурным рэформам заблакаваць магчымасць увайсці ў дзверы, яны прасочацца праз акно або праз комін, як гэта зрабілі ў лютым новыя расцэнкі на паслугі ЖКГ. Не за гарамі і павышэнне пенсійнага ўзросту. «Сама сітуацыя выспявае», — прызнаўся ў лютым галоўны інспектар па Мінску А. Якабсон. З такім прызнаннем цяжка не пагадзіцца.

Беларуская мадэль актыўна даядае савецкую індустрыяльную спадчыну, патэнцыял якой у якасці крыніцы эканамічнага росту вычарпаў сябе яшчэ ў 70-х гадах мінулага стагоддзя.

Расійскія датацыі, чые аб'ёмы наўпрост вызначаецца цаной барэля, стварылі бачнасць канкурэнтаздольнасці беларускай мадэлі. Але, як адзначае гісторык Міхаіл Карпаў, «колькасная столь індустрыялізацыі даўно дасягнута, а эканоміку ведаў «кавалерыйскім наскокам» не пабудуеш. Патрэбныя капітальны рамонт інвестыцыйнага механізму і лібералізацыя, а тут «руская вясна», санкцыі, контрсанкцыі і абвальнае падзенне нафтавых катыровак».

Тым не менш надзея памірае апошняй. Вернемся ў Палац Незалежнасці, дзе 8 лютага АП у чарговы раз нагадаў галоўную ўмову выжывання беларускай мадэлі: «Прэзідэнт Расіі і прэм'ер не толькі паабяцалі, але прынялі рашэнне аб падтрымцы, як бы ні было складана ў Расіі, эканоміцы Беларусі».

# Непад'ёмны цяжар для МЗС

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Калі ўважліва пачытаць вынесены на грамадскае абмеркаванне праект Нацыянальнай праграмы падтрымкі і развіцця экспарту на 2016–2020 гады (праграма «Экспарт Беларусі»), становіцца зразумела: МЗС заняўся не сваёй справай.**




Апошнія паўтара дзясятка гадоў кіраўнік краіны патрабаваў ад МЗС не столькі весці дыпламатычную працу па ўсім свеце, колькі прадаваць вырабленыя ў Беларусі тавары. Як высветлілася, гандляры з нашых дыпламатаў — ніякія. Напрыклад, па выніках 2015 года экспарт беларускіх тавараў абрынуўся на 26% да 2014 года — да $26,685 мільярда. За год экспарцёры недабралі $9,395 мільярда.

Затое дыпламаты моцныя ў распрацоўцы тэарэтычных канцэпцый. Знайсці тэкст канцэпцыі «Экспарт Беларусі» можна ў сеціве.

Дык што ж такога з'явілася ў 16-старонкавым дакуменце, што дапаможа ў бліжэйшыя некалькі гадоў радыкальна выправіць сітуацыю? Нічога арыгінальнага. Чыноўнікі проста перавялі на бюракратычную мову выказванні кіраўніка краіны накшталт: «Трэба ісці ў іншыя месцы, дзе нас не ведаюць, дзе нас чакаюць, і гандляваць — дзесяццю трактарамі, адным камбайнам, хоць нават па лыжцы цукар вазіць».

### Далёкая дуга

У праграме «Экспарт Беларусі» гэтае пажаданне афармілася ў выглядзе планаў-заданняў актыўна развіваць гандаль з краінамі так званай «далёкай дугі». Да 2020 года беларускія экспартныя пастаўкі павінны раўнамерна размяркоўвацца паміж трыма рынкамі: Еўразійскага эканамічнага саюза, Еўрапейскага саюза ды іншых краін, уключаючы «краіны далёкай дугі». Гэта значыць, на кожны з пералічаных рынкаў павінна прыходзіцца адна трэціна беларускага экспарту. Сёння ж прапорцыя зусім іншая: 45% экспарту — продажы ў Расію і краіны СНД, 45% экспарту — продажы ў краіны ЕС, і толькі 10% прыходзяцца на ўвесь астатні свет.

Але што ў МЗС разумеюць пад «краінамі далёкай дугі»? Гэта, аказваецца, усе краіны свету, за выключэннем ЕАЭС, СНД, ЕС, Бразіліі, Венесуэлы, В'етнама, Грузіі, Індыі, Кітая, Кубы, Манголіі, Нігерыі, Пакістану, ЗША і ПАР. Атрымліваецца, што не моцна далёкія ад нас Турцыя або Швейцарыя — гэта краіны «далёкай дугі», а размешчаныя на іншым канцы планеты ПАР або Бразілія — не. Сёння на рынкі краінаў «далёкай дугі» ў агульным аб'ёме экспарту тавараў з Беларусі прыходзіцца 5,8%.

> **5,8**
> **працэнта ў агульным аб'ёме экспарту тавараў з Рэспублікі Беларусь сёння прыходзіцца на рынкі краінаў «далёкай дугі». У планах — павысіць лічбу да 30%**

«Вынікам рэалізацыі праграмы «Экспарт Беларусі» да 2020 года павінны стаць: рост удзельнай вагі экспарту тавараў на новыя перспектыўныя рынкі далёкай дугі ў агульным аб'ёме экспарту тавараў да 10%, рост удзельнай вагі экспарту паслуг у агульным аб'ёме экспарту да 25%, — гаворыцца ў дакуменце. — Гэта дазволіць збалансаваць знешні гандаль Беларусі, асвоіць новыя рынкі збыту і замацавацца на іх, скараціць рызыку залежнасці эканамічнага росту Беларусі ад росту асобных краін — гандлёвых партнёраў».

Зрэшты, цалкам адварочвацца ад «роднага» ЕАЭС афіцыйны Мінск не гатовы. Сярод асноўных задач праграмы «Экспарт Беларусі» — «дасягненне мэты па выкананні партнёрамі па ЕАЭС дамоўленасцяў аб знясці бар'ераў, абмежаванняў і выняткаў у гандлі асобнымі катэгорыямі тавараў і аказанні асобных катэгорый паслуг, у першую чаргу, у дачыненні энерганосьбітаў, прадукцыі зборачных вытворчасцяў, лібералізацыі аўтамабільных перавозак і іншых адчувальных пазіцый».

### Разумнае

Безумоўна, у тэксце праграмы «Экспарт Беларусі» ёсць і цэлы шэраг цалкам разумных прапановаў. Напрыклад, «рэканфігурацыя заканадаўства Беларусі ў сферы падтрымкі экспарту з улікам сусветнай практыкі і функцыянавання беларускай мадэлі эканомікі». Гаворка тут ідзе пра тое, каб перапрацаваць нарматыўна-прававую базу, бо сёння знешні гандаль — адзін з самых забюракратызаваных бакоў працы любога беларускага прадпрыемства.

Таксама МЗС прапаноўвае «ўзмацніць інфармацыйна-камунікацыйны складнік падтрымкі экспарту і выкарыстаць патэнцыял выстаўной, кірмашовай і кангрэснай дзейнасці». У перакладзе з бюракратычнай мовы на чалавечую гэта азначае: у міжнародныя выставы і прэзентацыі грошай укладваем нямерана, а карысці — нуль.

Праблема, аднак, у тым, што кіраўніцтва беларускіх дзяржпрадпрыемстваў само па сабе папросту не здольнае і не гатовае эфектыўна працаваць на замежных рынках. Можна ўзгадаць праведзены пару гадоў таму эксперымент: журналісты тэлефанавалі па нумарах аддзелаў маркетынгу і збыту розных дзяржпрадпрыемстваў і па-англійску спрабавалі дамовіцца аб куплі іх прадукцыі. У большасці выпадкаў іх суразмоўцы проста вешалі слухаўку, часам спрабавалі выціснуць нешта з рэшты школьных ведаў. Паўнавартасна пагаварыць не атрымалася ні з кім.

Тое ж самае і з сайтамі беларускіх прадпрыемстваў. Далёка не ўсе яны маюць англамоўныя версіі, і ўжо зусім на нешматлікіх можна «ў адзін клік» дабрацца да каталога прадукцыі з актуальнымі коштамі. Гэта ментальнасць, і гэта яе трэба змяняць. Але такая задача відавочна не па плячы айчынным дыпламатам. І таму яны глыбакадумна заяўляюць у праекце праграмы: «Асноўнай мэтай развіцця знешнеэканамічных адносін Беларусі з'яўляецца паніжэнне да мінімуму знешнеэканамічных пагрозаў на аснове эфектыўнага ўдзелу ў міжнародным падзеле працы, выкарыстанні канкурэнтных перавагаў краіны, ужыванні механізмаў міжнародных інтэграцыйных аб'яднанняў і паніжэнні залежнасці ад традыцыйных экспартных пазіцый і рынкаў за кошт дыверсіфікавання таварнай наменклатуры».

Здаецца, і разумнае нешта сказалі, а карысці з таго?

# Крэдыты як шлях да прорвы

Генадзь КЕСНЕР

**Расія пацвярджае прынцыповае рашэнне пра выдаткаванне Беларусі крэдыту ў 2 мільярды долараў ад Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця. Беларусь спадзяецца яшчэ і на атрыманне 3 мільярдаў ад МВФ. Пра рэформы нічога не гаворыцца.**

Пра «канчатковае і беззваротнае» рашэнне прадаставіць Беларусі двухмільярдны крэдыт днямі заявіў пасол Расіі ў нашай краіне Аляксандр Сурыкаў. Усю суму адразу беларускі бок не атрымае. Першы транш можа скласці 500 мільёнаў долараў, а ўвогуле ў бягучым годзе Беларусь можа атрымаць ад ЕФСР да 1,1 мільярда долараў. Прычым неяк няўцямна гаворыцца пра тое, што Беларусь не выканала шэраг умоваў пры выдзяленні ёй мінулага крэдыту ад тагачаснага Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС — апошні транш гэтага крэдыту ў 440 мільёнаў долараў афіцыйны Мінск так і не атрымаў.

Улады разлічваюць і на іншыя грашовыя паступленні. Напрыклад, Мінфін разлічвае размясціць (пасля адмены санкцыяў з боку Еўрасаюза) на Захадзе еўрабонды на 1,5 мільярда долараў. Магчыма, гэта і атрымаецца. Але пад якія працэнты? Па словах былога кіраўніка Нацыянальнага банка Беларусі Станіслава Багданкевіча, калі гэта будзе, як і ў мінулыя разы, пад 7–7,5% гадавых, то гэта проста неразумна. «Рэнтабельнасць вытворчасці ў Беларусі складае 6%, таму браць крэдыты і размяшчаць еўрабонды пад вышэйшы працэнт — гэта поўная бязглуздзіца, і гэта будзе азначаць толькі большыя страты для эканомікі», — лічыць прафесар.



Апроч таго, улады цешаць сябе спадзяваннямі і на новы крэдыт ад Міжнароднага валютнага фонду памерам у 3 мільярды долараў на 10 гадоў пад 2,28% гадавых. І, гледзячы па ўсім, МВФ гэты крэдыт можа прадаставіць, улічваючы тую ж самую адмену санкцыяў і змяненне стаўлення Еўропы і ЗША да беларускага кіраўніцтва. Да таго ж, існуюць магчымасці прадастаўлення дапамогі Беларусі з боку некаторых еўрапейскіх структураў.

Але ці будзе на карысць Беларусі такая дапамога? Станіслаў Багданкевіч не выключае, што гэтыя грошы зноў могуць быць «праедзеныя», а не скарыстаныя для правядзення рэформ і сапраўднай мадэрнізацыі беларускай эканомікі. «Патрэбна зніжаць падаткі, зрабіць палёгкі малому і сярэдняму бізнесу, праводзіць мадэрнізацыю. А ў нас улады грошы пазычаюць для выплаты мінулых пазыкаў. Хоць гэтыя пазыкі варта было б выплачваць за кошт росту аб'ёмаў экспарту, павышэння ўзроўню і якасці вытворчасці, то бок, з унутраных крыніцаў», — падкрэсліваe экс-старшыня Нацбанка.

Акрамя таго беларускі ўрад разлічвае, што ўжо ў сакавіку будзе вырашана пытанне аб зніжэнні коштаў на расійскі газ, што пастаўляецца ў нашу краіну. Так, віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка, які курыруе ва ўрадзе пытанне паліўна-энергетычнага комплексу, заявіў, што «сёння энерганосьбіты для беларускіх прадпрыемстваў часам у два разы даражэйшыя, чым для расійскіх». Паводле ягоных словаў, заканадаўчая база, як двухбаковая, гэтак і ў рамках ЕАЭС, «паказвае, што гэтую тэму можна і патрэбна вырашыць у найбліжэйшы месяц». Гэта, на думку Сямашкі, дазволіць істотна знізіць кошты на газ, што, у сваю чаргу, зменшыць тарыфы на энерганосьбіты для рэальнага сектара эканомікі і створыць больш-менш роўныя ўмовы для беларускіх прадпрыемстваў параўнальна з расійскімі.

Дарэчы, паводле Сямашкі, за апошнія паўтара гады ў структуры сабекошту прадукцыі па міністэрстве прамысловасці доля энерганосьбітаў павялічылася амаль у два разы — ад 4,4% да 8%, што «надзвычайна дорага». А змяншаць энергаёмістасць вытворчасці, як гэта даўно зроблена ў цывілізаваных краінах, вы не спрабавалі, дарагія ва ўсіх сэнсах чыноўнікі? Пытанне ва ўмовах адмовы вышэйшага кіраўніцтва Беларусі ад нават узгадванняў пра рэформы з'яўляецца рытарычным.

Такім чынам, новыя фінансавыя ўліванні, відавочна, яшчэ больш законсервуюць сітуацыю. Беларусь працягне адставаць ад развітых эканомік свету і ўсё хутчэй набліжацца да эканамічнай прорвы.

Ў Гэта я — беларускамоўны

# Мы жывем у Беларусі

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Мы працягваем знаёміць нашых чытачоў з людзьмі розных прафесій, якія ўжываюць беларускую мову ў штодзённым жыцці не па загадзе альбо пры патрэбе, а паводле шчырага жадання і любові да роднай мовы. Больш за дзве тысячы чалавек — сярод іх і нашыя суразмоўцы — прынялі ўдзел у перапісе беларускамоўных людзей, арганізаваным папулярнымі курсамі беларускай мовы «Мова нанова».**




### Андрэй Ільніцкі, лекар, Полацк

— Паколькі я нарадзіўся і вырас у Полацку, то беларускую мову — хутчэй у варыянце трасянкі — чуў з самага дзяцінства штодзень і ўсюды. Менавіта на такім сімбіёзе, але з перавагай беларускай мовы, размаўлялі мае бабулі і дзядуля, і ўвогуле, многія гараджане. Але гэта была жывая гаворка, не літаратурная мова. А літаратурную беларускую мову я чуў і ўспрыняў з «праўдной сеткі беларускага радыё», яно заўсёды было ўключана, і ўсе перадачы былі па-беларуску. Свядома аб «моўным пытанні» я задумаўся пасля канцэрту Багдана Данчыка ў полацкім Багаяўленскім саборы, гэта было ў часы перабудовы, і там ладзіўся адзін з першых канцэртаў спявака ў Беларусі. І вось я ўпершыню ўбачыў людзей (з Данчыкам была яго маці), якія цалкам — увесь час — размаўляюць на беларускай мове, пры гэтым не ведаюць рускую. Мы вярталіся з маёй маці дадому пасля канцэрту, і яна мне сказала: «Ну вось, людзі прыехалі здалёк і размаўляюць па-беларуску, а мы жывем у Беларусі і слова не кажам па-роднаму».

Зараз я працую ў Маскве, знаходжуся там пераважна большую частку часу, таму я б сказаў, што прага беларускай мовы ў мяне значна павялічылася. Па-беларуску я размаўляю з сябрамі, карыстаюся беларускай мовай штодня праз інтэрнэт і ў сацыяльных сетках. Калі бываю ў Беларусі — купляю шмат цікавых кніг на беларускай мове і чытаю потым, бо гэта дапамагае захоўваць беларускі менталітэт і беларускае бачанне свету. У Маскве ёсць некалькі беларускіх рэстаранаў, адзін з іх — мой улюбёны — «Белая Русь» на Вялікай Нікіцкай вуліцы, насупраць кансерваторыі, якую часта наведваю. Дык вось у гэтым рэстаране ўсё меню на добрай беларускай мове, я дапамагаў гаспадарам выпраўляць памылкі ў мове. Інтэр'ер і кухня — таксама беларускія. Ну і як у навукоўца — спецыяліста ў галіне геранталогіі і герыятрыі (навукі пра старэнне і хваробы ў людзей сталага ўзросту) у мяне ёсць працы на беларускай мове, напрыклад, пра праблемы заўчаснага старэння. У межах дзейнасці Беларускага рэспубліканскага геранталагічнага аб'яднання (я з'яўляюся яго старшынёй), якое ладзіць адукацыйныя семінары для розных спецыялістаў, мы з калегамі робім пасведчанні і сертыфікаты аб удзеле ў семінарах, на беларускай мове. Так што беларуская мова заўсёды і кожны дзень са мной.

Аднойчы я чытаў лекцыю па герыятрыі ў Маскве, у першыя часы пасля таго, як стаў там працаваць. І пасля лекцыі да мяне падышлі дзве жанчыны, якія вельмі эмацыйна сталі казаць: «Як мы рады, што вы — наш зямляк, беларус, чыталі нам лекцыю!» Я вельмі здзівіўся, бо калі прадстаўляўся аўдыторыі слухачоў, не казаў, адкуль я родам. Запытаўся ў іх: «А адкуль вы ведаеце, што я з Беларусі?» Яны адказалі, што як толькі я вымавіў першае слова, яны адразу здагадаліся па артыкуляцыі — яна тыпова беларуская. Я вельмі здзівіўся, бо думаў, што размаўляю па-руску вельмі пісьменна і «без акцэнта». Так што беларускую мову нам нікуды не дзець, нават на ўзроўні вымаўлення — я менавіта пасля гэтага выпадку пераканаўся ў тым, што для жыхароў Беларусі найлепш карыстацца менавіта беларускай мовай, бо гэта прыгожа, натуральна, самавіта і адпавядае ўнутранаму складу.

### Іван Осіпаў, бортнік, Палессе

— Беларуская мова прыйшла ў маё жыццё, з аднаго боку, праз кроў — дзяцінства ў вёсцы, стасункі з мясцовай мовай, потым захапленне роднымі мясцінамі (краязнаўчая дзейнасць, запіс этнаграфічнай і фальклорнай спадчыны). З другога боку, выпадкова, бо па жыцці часта трапляліся людзі, з якімі можна было пагаварыць «нармальна». Раней, гады тры таму, я карыстаўся беларускай мовай збольшага ў інтэрнэце ды праз смс, а таксама ў беларускамоўным асяроддзі. Цяпер дадалося першае кола — сям'я. Цікава,




# Скарбы Бярэзінскага краю

Марат ГАРАВЫ

**Беразіно — невялікі райцэнтр на шашы Мінск—Магілёў. Тут я пачуў пра руплівцаў беларушчыны, сустрэўся з цікавымі, неабыякавымі людзьмі і пазнаёміўся з іх захапленнямі.**


**Майстрыха сярод сваіх твораў.** Фота з сямейнага архіву Алены Ждановіч

### Стваральніца Ганна

Заснавальніца Музею драўлянай лыжкі ў Бярэзінскім раённым цэнтры рамёстваў Ганна Ждановіч (у дзявоцтве Ладуцька) пасля заканчэння культпрасветвучэльні, а затым Беларускага дзяржуніверсітэта культуры і мастацтваў працавала на Бярэзіншчыне, стварыла калекцыю лялек у беларускіх нацыянальных вышываных строях.

З чаго пачаўся Музей драўлянай лыжкі? Спачатку спадарыня Ганна запрасіла ў горад народных майстроў з розных раёнаў Міншчыны і 17 ліпеня 2010 года правяла ў райцэнтры першае абласное свята-конкурс «Бярэзінскія лыжкары». А пасля таго, як больш за 40 разбяроў падарылі Беразіно свае лыжкі, Ганна Ждановіч пачала дэманстраваць гэтую калекцыю ў хаце сваёй свекрыві. Праз два гады — напярэдадні Другога свята-конкурсу «Бярэзінскія лыжкары» — гэты збор быў перанесены ў залу мясцовага цэнтру рамёстваў, дзе пасля капітальнага рамонту, 26 снежня 2015 года адкрылася музейная экспазіцыя.

Яшчэ напрыканцы 1990-х гадоў спадарыня Ганна расшукала ў раёне і аб'яднала носьбітаў традыцыйных рамёстваў праз заснаваны ў райцэнтры Клуб майстроў, які пазней атрымаў званне «народнага». Сёння гэты клуб аб'ядноўвае звыш 30 умельцаў, большасць якіх займаюцца вышыўкай, а астатнія — разьбой па дрэву, пляценнем з саломы і лазы, а таксама філігранню (вырабам карцін са скручаных стужак) і скрабукінгам (стварэннем паштовак з розных матэрыялаў). Сябры клубу прымаюць удзел у выставах народнай творчасці, абласных і нацыянальных конкурсах, у традыцыйнай Ночы музеяў, у каляндарных беларускіх святах, а на Новы год разам з дзецьмі пішуць лісты Дзеду Марозу.

Першым у горадзе, хто аднавіў старадаўняе мясцовае рамяство разьбы па дрэве, быў Васіль Мурашка, у якога ад бацькі-разбяра засталіся адпаведныя прылады і такія-сякія веды, уменні і звычкі. Спадар Васіль пачаў рэзаць лыжкі. Яму дапамаглі тутэйшыя майстрыхі, якія аздобілі лыжкі алейнай размалёўкай, саломкай і бісерам, пацягнулі іх лакам. Неўзабаве лыжкі пачалі рэзаць іншыя майстры, у тым ліку Алесь Паскробка і Яўген Осіпаў.

Вось такую вялікую справу зрабіла неабыякавая спадарыня Ганна. А калі яна адышла ў лепшы свет, яе справу працягнулі сястра — Алена Лапыцька і дачка — Алена Ждановіч.

### Лыжкі Яўгена Осіпава

У музеі захоўваецца 341 лыжка. З іх 94 зрабіў Яўген Осіпаў. Ён выкладаў фізіку і матэматыку ў Лагаўской сярэдняй школе, што амаль у 25-ці кіламетрах ад райцэнтру. Напрыканцы 1990-х гадоў вясковы настаўнік зацікавіўся разбярствам. Спачатку не бачыў аніякай магчымасці прыкласці фантазію да звычайнай разной лыжкі. Але пакрысе ўцяміў — у гэтай, на першы погляд, простай, але карпатлівай справе непачаты край для творчасці.

Так, у мінулым годзе разбяр пачаў ствараць калекцыю лыжак з розных гатункаў дрэваў і кустоўя, каб паказаць усю іх унутраную і вонкавую прыгажосць — тэкстуру і колеры, лісты і ягады ліпы, крушыны, рабіны, яблыні, вязу, таполі, каштану, іншых раслінаў. На сённяшні дзень у гэтай серыі ўжо ёсць 25 твораў. Аўтар жадае стварыць поўны збор з усіх гатункаў дрэваў і кустоўя, што растуць на тэрыторыі Беларусі.

Зараз майстар разам са сваімі напарнікамі Уладам Макавецкім і Алесем Паскробкам стварае найбольшую лыжку ў свеце даўжынёй звыш 20 метраў. Для гэтай унікальнай працы ва ўрочышчы Муравіцкі каля вёскі Задвор'е ў Мачаскім сельсавеце быў спілаваны стары засохлы дуб, якому не менш за 300 гадоў. Да лета майстры мяркуюць выразаць незвычайную лыжку з выявамі элементаў народнага арнаменту, гербу горада Беразіно і казачным сюжэтам пра прыгоды легендарнага Бярэзінскага цмоку.

Гэтая вялізная лыжка будзе ўпрыгожваць тэрыторыю мяс-


**Лыжка «Мядзведзь вельмі любіць мёд». Разбяр Яўген Осіпаў**

# і слова не кажам па-роднаму




што з пашырэннем практыкі беларускай мовы стала зусім нармальна размаўляць з суседзямі (украінцамі і палякамі), яны разумеюць, і ты сам іх разумееш, што галоўнае.

**Вольга Шумская, супрацоўніца БДУ, Мінск**

— Любоў да роднай мовы мне прывіла выкладчыца беларускай мовы і літаратуры ў школе, а больш усвядомленая цяга да роднай мовы выявілася пры навучанні ў ЕГУ, дзе многія аднакурснікі размаўлялі па-беларуску. Старалася адказваць ім гэта жа на беларускай мове — як атрымлівалася. Цяпер я заўсёды імкнуся размаўляць са сваімі сябрамі і роднымі на роднай мове. Цікава, што і мая мама, будучы выкладчыкам рускай мовы і літаратуры, адкрыла для сябе прыгажосць беларускай мовы. У яе нават атрымліваецца лепш за мяне. Самыя актыўныя мае суразмоўцы на роднай мове — гэта мая сяброўка Вольга, яна медсястра-анестэзіёлаг (і размаўляе па-беларуску ў шпіталі на працы), і родны брат Андрэй.

Зараз я працую ў БДУ, у галоўным упраўленні навукі, і там часта чую, як супрацоўнікі БДУ размаўляюць на беларускай мове. У крамах заўсёды кажу «дзякуй». Дарэчы, муж мой — рускі і карэнны масквіч, ужо прывык да маіх уставак беларускіх слоў у паўсядзённае жыццё, часам прośць перавесці або растлумачыць, што сказала, а часам нават сам пытаецца, як тое, ці іншае слова будзе па-беларуску.

Смешна было, калі я першы раз папрасіла мужа знайсці нешта ў шуфлядцы. Вядома, цяпер ён ведае, што гэта такое і дзе знаходзіцца. Але тады я доўга чакала, калі ж ён прынясе патрэбную рэч. Ён, вядома, не прынёс, а прыйшоў і перапытаў, што такое шуфляда.

**Уладзімір Ян, юрысконсульт, Гомель**

— Упершыню я пачуў родную мову ў дзяцінстве — мабыць, мне было гады тры ці крыху болей. Мама мне чытала кніжку «Ладачкі-ладкі». Гэтая кніжка захавалася і да сёння. Калі мне было тры з паловай гады, мы патрапілі ў Польшчу — мой бацька быў вайсковы медык (афіцэр медыцынскай службы). Там я спрытна вывучыў польскую, бо яна падавалася мне вельмі падобнай на беларускую. Пазней я даволі часта блытаў польскія словы і беларускія. У той час я быў сведкам барацьбы «Салідарнасці». Дасталося і мне. Там я адчуў, што значыцца быць акупантам...

Калі мы вярнуліся ў Беларусь, я быў вызвалены ад урокаў беларускай мовы і літаратуры. Аднойчы настаўніца мовы і літаратуры мне сказала: «Годзе табе, Вова, бадзяцца па вуліцы. Лепей сядзі на ўроках і проста слухай. Хатняе заданне можаш не выконваць. Проста сядзі і слухай. Можаш што заўгодна пры тым рабіць — маляваць, пісаць, чытаць ці іншае што...» Вось шчыры дзякуй ёй за гэтыя словы! Без прымусу я вельмі ўважліва слухаў. Слухаў і часам дзіву даваўся: Максім Танк? — Ён што, на танку ваяваў? Чаму такое дзіўнае прозвішча?

Самае моцнае ўражанне на мяне зрабіла мая прабабця, з якой я меў шчасце размаўляць пяць гадоў. Яна гаварыла на беларускай мове, зрэдку прымешваючы рускія словы. Гэта мяне вельмі бянтэжыла, бо я разумеў, што яна размаўляе неяк «не па-нашему». Толькі пазней мне адкрылася, што яна размаўляла той самай нашай моваю. Адна з тых размоваў засталася назаўжды ў маім сэрцы.

Малым я спытаў: «Бабуля, а Бог сапраўды існуе?» Яна крыху здзівілася: «Чаму ж ты спрашываеш?» Кажу: «Чытаю кніжку адну... Там распавядаюць, што Вялікі патоп сапраўды быў! Вучоныя пацвярджаюць...» — «А... Кніжку... Сапраўды, Бог — ёсць... Царква — гэта добра. Ленін правільна ўсё рабіў... І Бог — Ён добры. А папоў ненавіжу...» — вочы як сталіся вільготнымі. — «За што ты ненавідзіш папоў?» — Слёзы паліліся па зморшчынках бабулі... — «Калі мы вучыліся ў школе... Пры царкве... У Дзятлавічах... Ён — поп, што прыехаў з Расіі, — біў лінейкай мяне па руках за кожнае слова па-нашаму...»

У дзевяностых гадах я патрапіў у гомельскую Талаку — і там упершыню пачуў жывую мову. Тым самым часам з вялікімі цяжкасцямі прачытаў Ластоўскага і Караткевіча. Ластоўскі даўся вельмі пакутліва, бо на тарашкевіцы, але ён мяне ўразіў. А Караткевіча чытаў лёгка, проста запоем. У гэты ж час я і пачаў размаўляць моваю — кульгава і брыдка, але размаўляў. З тых часоў мінула больш за дваццаць гадоў. І раптам я прачытаў паведамленне, што ЮНЭСКА пазначыла беларускую мову мовай, што памірае. З таго часу я пачаў пашыраць яе ўжытак — да ста адсоткаў, вядома ж, яшчэ вельмі далёка, але яна ўжо сталася моваю маіх думак. На ёй раблю ўсе нататкі, зацемкі. Нават са смаўжом сваім — у мяне жыве ахацін — размаўляю беларускай мовай.




---


Фота аўтара

Гэтая дубовая разная лыжка даўжынёй больш за 22 метры — кандыдат у Кнігу рэкордаў Гінеса...

цовага цэнтру рамёстваў і, спадзяюся, стане прыкметным турыстычным аб'ектам гораду над Бярэзінай.

**Мара пра музей**

Алена Ждановіч па мячу паходзіць са старадаўняга шляхецкага роду беларускіх татараў Ждановічаў з-пад Смілавічаў, што на Чэрвеньшчыне. Магчыма, гэтым таксама тлумачыцца яе прага да захавання гістарычнай спадчыны.

Пасля заканчэння філфаку і аспірантуры Магілёўскага дзяржуніверсітэта ўзначальвала працоўную групу па стварэнні Бярэзінскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея. Зараз спадарыня Алена на адпачынку па дагляду за дзіцём, аднак вось ужо трэці год працоўная група з двух штатных супрацоўнікаў збірае і апрацоўвае рэчавыя, пісьмовыя і выяўленчыя артэфакты, што стануць грунтам музейнай экспазіцыі. Прычым большасць рэліквій — са збораў мясцовага краязнаўцы, інжынера-будаўніка Ігара Жукоўскага. Падчас акцыі «Створым музей разам, альбо Скарбы з гарышча» ён і іншыя жыхары раёну перадалі рэліквіі ў фонды будучай установы культуры.

Алена марыць пра музей, які зацікавіць малых і дарослых, нешта накшталт выспы скарбаў, дзе можна будзе атрымаць не толькі разнастайныя звесткі пра родны край і яго знакамітых людзей, але і адпачыць ва ўтульнай кавярні.

**Скарбы мінуўшчыны**

У горадзе захаваўся выбітны помнік архітэктуры нацыянальнага значэння — класічная двухпавярховая мураванка першай паловы XIX стагоддзя на правым стромкім беразе ракі Бярэзіна, умацаваным бутавай падпорнай сценкай. У гэтым арыгінальным будынку некалі знаходзілася сядзіба Патоцкіх, затым школа і склад. Зараз помнік занядбаны і патрабуе неадкладных працаў па кансервацыі і рэстаўрацыі.

Менавіта сваім складаным мінулым і прывабнай архітэктонікай гэтая рамантычная мураванка над ракою найбольш адпавядае майму ўяўленню пра музейнае памяшканне. Тым больш, што сярод ураджэнцаў Бярэзіншчыны — выбітныя беларускія мастакі браты Гараўскія: партрэтыст і пейзажыст Апалінар і пейзажыст Іпаліт, творы якіх апяваюць прыгажосць беларускіх краявідаў і народны побыт, а таксама акварэліст Гілярый.

На Бярэзіншчыне нарадзіліся і прадстаўнікі старажытнага беларускага шляхецкага роду Ваньковічаў. Гэта — паслядоўнік рамантызму, вядомы партрэтыст Валенцій Ваньковіч, сын якога Ян быў актыўным удзельнікам нацыянальна-вызвольнага паўстання супраць царскага самаўладдзя 1863–1864 гадоў пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, камандзірам Берасцейскага паўстанцкага атраду. Разам з Кобрынскім атрадам Рамуальда Траўгута атрад Яна Ваньковіча зрабіў рэйд на Піншчыну. Празаік і журналіст Мельхіёр Ваньковіч вядомы сваімі гістарычнымі аповесцямі «Шпіталь у Ціхінічах» і «Вестэрплятэ», нарысамі і рэпартажамі «Монтэ Касіна» і «Ад Стоўбцаў да Каіра», а таксама ўспамінамі «Туды і сюды».

А народжаны ў маёнтку Багушэвічы, што на Бярэзіншчыне, прадстаўнік старажытнага каталіцкага шляхецкага гербу «Трубы» Баляслаў Свентаржэцкі мужна кіраваў паўстаннем 1863–1864 гадоў у Ігуменскім павеце Мінскай губерні, за што па загаду віленскага генерал-губернатара Міхаіла Мураўёва-вешальніка была знішчаная спадчынная сядзіба паўстанца.

Пра вядомага беларускага літаратуразнаўцу, крытыка і перакладчыка Міколу Прашковіча, які родам з бярэзінскай вёскі Гарадзішча, Уладзімір Арлоў у сваёй кніжцы «Імёны Свабоды» напісаў: «Ён сябраваў з Уладзімірам Караткевічам і Адамам Мальдзісам. Ён часта браў квіток да Зэльвы, дзе жыла грамадзянка БНР — нязломная Ларыса Геніюш, якая ў сярэдзіне 1960-х амаль штотыдзень пісала яму вялікія цёплыя лісты, называючы «дарагім Міколам».

Мікола Прашковіч не баяўся казаць пра каланіяльнае становішча Беларусі ў складзе СССР і вынішчэнне ўсяго нацыянальнага. На пачатку 1970-х ён пашыраў самвыдавецкую працу вядомага ўкраінскага дысідэнта Івана Дзюбы «Інтэрнацыяналізм, або русіфікацыя?» і збіраў грошы калегам ва Украіне, пацярпелым ад рэпрэсіяў.

У выніку Міколу Прашковіча як беларускага нацыяналіста разам з іншымі сябрамі дысідэнцкага «Акадэмічнага асяродку» звольнілі з Акадэміі навук БССР. Ён працаваў грузчыкам, карэктарам, а 2 лютага 1983 года, спаралізаваны ад цяжкіх перажыванняў, згарэў у бацькоўскай хаце, не здолеўшы выбрацца з агню падчас пажару.

* * *

І прымроілася мне экспазіцыя «Скарбы Бярэзінскага краю...», прысвечаная гэтым найвыбітнейшым асобам Бацькаўшчыны. З іх партрэтамі, копіямі мастацкіх твораў і кнігамі. З успамінамі і прысвячэннямі гэтым постацям. Для такой экспазіцыі ўсе астатнія сабраныя рэліквіі будуць мець дапаможны характар. Бо нашы краязнаўчыя музеі павінны ж калі-небудзь распавесці пра тых, хто назаўжды ўвайшоў у нацыянальны пантэон, хто і праз стагоддзі будзе годна ўслаўляць беларусаў сярод іншых народаў свету. Бо без усведамлення нашай лучнасці з гэтымі сапраўднымі і моцнымі асобамі мы ніколі не зможам «людзьмі звацца».

Мне падаецца, што такі музей у былой сядзібе Патоцкіх можна стварыць нават пры сённяшніх складаных эканамічных умовах.

*Аўтар выказвае падзяку арганізатару вандроўкі дырэктару грамадскага Інстытуту беларускай гісторыі і культуры (Рыга, Латвія), намесніку старшыні Мінскага гарадскага таварыства аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага Віктару Яўменeнку і яго сям'і.*

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Прыхільнікі Трампа мараць пра вяртанне рабства

Незвычайныя вынікі прынесла сацыялагічнае апытанне, якое правяло агенцтва YouGov сярод выбаршчыкаў Рэспубліканскай партыі ЗША. Аказваецца, 20 працэнтаў ахвочых галасаваць на прэзідэнцкіх выбарах ЗША за Дональда Трампа сумуюць па часах, калі існавала рабства. Падчас апытання гэтая група рэспандэнтаў абрала пункт пра тое, што асуджае так званы Emancipation Proclamation — загад, які 1 студзеня 1863 года выдаў Аўраам Лінкальн. Згодна з Emancipation Proclamation ва ўсёй краіне быў ліквідаваны інстытут рабства. Вынікі апытання выглядаюць яшчэ больш сумнымі з улікам таго, што яшчэ 17 працэнтаў апытаных прыхільнікаў рэспубліканцаў не маюць канкрэтнай пазіцыі адносна Emancipation Proclamation. Такі баланс настрояў у шэрагах рэспубліканцаў яшчэ раз сведчаць пра вельмі моцны кансерватыўны трэнд і пра крызіс Партыі сланоў.

**Паводле брытанскай прэсы**

### СВЕТ. Армяне і банкаматы

Нягледзячы на някруглую дату, армянская супольнасць надзвычайна гучна адсвяткавала 111-ты дзень нараджэння Лютэра Джорджа Сімджана — амерыканскага інжынера армянскага паходжання. Лютэр Джордж Сімджан нарадзіўся ў 1905 годзе ў Асманскай Імперыі. Падчас генацыду армян 1915 года страціў усю сям'ю. Пасля эміграцыі ў ЗША стаў аўтарам некалькіх вынаходніцтваў, у тым ліку — банкамата, без якога цяжка ўявіць наш цяперашні побыт. Самае цікавае, што City Bank of New York, якому ў 1939 годзе вынаходнік аддаў свой эксперыментальны апарат на выпрабаванне, праз паўгода вярнуў яго, не зразумеўшы, у чым прагрэсіўнасць гэтай машыны. Дырэктар банка нават сказаў, што распрацоўка Сімджана можа падарваць добры імідж банку. Маўляў, ім будуць карыстацца выключна бандыты і прастытуткі, якім сорамна сустракацца з банкаўскімі касірамі. Вынаходніцтва армяніна было амаль на 30 гадоў забытае і дапрацаванае толькі ў канцы 1960-х гадоў.

**Паводле армянскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Гісторыю перапішуць?

Ліберaлы Польшчы не знаходзяць сабе месца. На іх думку, кіруючыя краінай кансерватары маюць намер запусціць працэс перапісу сучаснай гісторыі Польшчы. У новай трактоўцы акцэнт будзе зроблены на тым, што Лех Валенса мог быць агентам спецслужбаў. Таму ў новай гістарыяграфіі прапануецца ролю галоўнага разбуральніка камунізму надаць Леху Качыньскаму, былому прэзідэнту Польшчы, які загінуў у авіякатастрофе пад Смаленскам у 2012 годзе. Як вядома, Качыньскі таксама быў адным з лідараў «Салідарнасці». Падставай для версіі пра тое, што ўлада рыхтуе рэвізію гісторыі, стала інтэрв'ю намесніка міністра культуры, у якім ён у тым ліку выдаў наступны пасаж: «Лех Качынскі да канца застаўся верным ідэалам «Салідарнасці», у той час як Валенса яе прынцыпам здрадзіў». Чыноўнік таксама дадаў, што «Валенса перайшоў на цёмны бок сілы». Між тым, міма спекуляцый наконт новай рэдакцыі падручнікаў гісторыі не прайшлі аматары жартаў. Адно з сатырычных інтэрнэт-выданняў Польшчы прапанавала дэпутатам Сейма адабраць у Леха Валенсы яго прозвішча «Валенса» і афіцыйна надаць яго Леху Качыньскаму.

**Паводле польскай прэсы**



### ТАДЖЫКІСТАН. Справаздача па барадах

МУС Таджыкістана апублікавала рапарт па выніках барацьбы з модай на бароды сярод таджыкскіх мужчынаў за 2015 год. Нагадаем, што барада ў краіне лічыцца прыхаванай формай прапаганды радыкальнага ісламу. Насіць яе дазволена выключна мужчынам, старэйшым за 50 гадоў, настаўнікам і прадстаўнікам кліру. Паводле справаздачы, у мінулым годзе па ўсім Таджыкістане супрацоўнікі паліцыі затрымалі некалькі дзясяткаў тысяч барадатых мужчын. Пасля высвятлення асобы і зняцця адбіткаў пальцаў, затрыманым гвалтоўна галілі бароды. Рэкорд паставілі ў Хатлонскай вобласці, дзе ўлады прымусова пагалілі амаль 13 тысяч мужчын. Афіцыйныя Душанбе задаволены сваёй працай, хаця ў інтэрнэце шмат скаргаў на гвалт падчас прымусовага галення. Цікава, што афіцыйна кампанію праводзяць на падставе барацьбы з усім «чужародным і не адпаведным таджыкскай культуры». Хаця сярэднявечны паэт Фірдоўсі, якога таджыкі вельмі паважаюць і шануюць, на ўсіх партрэтах выяўлены з саліднай барадой.

**Паводле таджыкскай прэсы**




Фота www.bloomberg.com

# Ураджай бананаў

Алег НОВІКАЎ

**Арыштаваць адразу пасля выбараў асноўнага апанента — распаўсюджаная з'ява сярод дыктатараў. Менавіта так зрабіў Ёверы Мусевені, прэзідэнт Уганды.**

Увогуле, Ёверы кіруе Угандай ужо 30 гадоў і па тэрміну знаходжання пры ўладзе займае пятае месца ў гісторыі Чорнага кантынента. Тым не менш пра Уганду ў свеце гавораць няшмат. Думаецца, калі б не казус з арыштам асноўнага канкурэнта, пятая запар «элегантная» перамога Мусевені наўрад ці выклікала асаблівую знешнюю цікавасць. Зараз, дзякуючы масавым затрыманням у дзень галасавання 19 лютага, Уганда нечакана трапіла ў фокус сусветных СМІ, якія адзінадушныя ў высновах — у асобе Ёверы Мусевені свет мае яркага прадстаўніка дыктатарскай традыцыі на Чорным кантыненце.

Гэтая традыцыя багатая на фенаменальных персанажаў. Дастаткова ўзгадаць іншага ўгандыйскага дыктатара-канібала Ідзі Аміна, які меў звычай ласавацца сваімі палітычнымі апанентамі. Аднак Ёверы Мусевені (нарадзіўся ў 1944 годзе) — не канібал-вар'ят, накшталт Аміна, які дарваўся да ўлады дзеля задавальнення сваіх комплексаў. Дыктатура Ёверы больш мадэрнізаваная і прагматычная, пра што сведчыць рыторыка палітыка. Так, прэзідэнт Уганды не адзін раз крытыкаваў практыку, калі нейкая персона доўгі час займае вышэйшую пасаду ў краіне, паколькі, па яго словах, «гэта нічога добрага не дае». Праўда, самога сябе ён лічыць выключэннем. Па словах угандыйскага правадыра, ён не можа пакінуць сваю пасаду, паколькі «бананавая плантацыя, якую ён заснаваў, толькі-толькі пачала прыносіць ураджай».

Заснаваў «бананавую плантацыю» Ёверы ў 1986 годзе, калі ў выніку грамадзянкай вайны ён — былы лідар партызанскага руху і крытык дыктатуры — стаў прэзідэнтам. Тут жа Уганда ператварылася ў дэкарацыю для маштабнай пастаноўкі вядомай байкі «Забіць дракона», дзе, паводле сюжэту, рыцар, які забіў пачвару, сам хутка ў яе ператвараецца. Першае дзесяцігоддзе кіравання Ёверы было бліскучым: з краінай зноў пачалі працаваць фінансавыя інстытуты, прыйшлі замежныя крэдыты, была праведзеная прагрэсіўная рэформа сістэмы адукацыі. Рост эканомікі дазволіў у тым ліку спыніць тэмпы распаўсюджвання эпідэміі СНІДу.

Аднак напярэдадні выбараў у 2006 года ў мясцовую канстытуцыю праз рэферэндум была ўнесена папраўка, якая скасавала абмежаванне колькасці прэзідэнцкіх кадэнцый для адной і той жа асобы. Пасля гэтага адносіны з Захадам у Ёверы імкліва пагоршыліся. Новы віток канфрантацыі пачаўся пасля таго, як прыкладна пяць гадоў таму ў краіне распачалася дзяржаўная кампанія супраць геяў. У яе рамках Ёверы Мусевені падпісаў закон, які ў народзе празвалі «Забі гея». Закон кваліфікуе нетрадыцыйную сексуальную арыентацыю як цяжкую форму злачынства, што караецца смерцю. Дарэчы, ёсць версія, што праслед геяў быў патрэбны Ёверы, каб прарваць вонкавую ізаляцыю. Сапраўды, навіны з Уганды выклікалі самую пазітыўную рэакцыю сярод кансерватыўнай фракцыі амерыканскіх пратэстантаў.

Змянілася і стаўленне да апазіцыі, з шэрагаў якой выйшаў сам Ёверы. Прыкладна з пачатку стагоддзя апазіцыю ў краіне ўзначальвае харызматычны Кіза Бесіджы. Між іншым, ён — псіхіятр па прафесіі, і больш таго, былы асабісты доктар прэзідэнта, які цяпер мае статус яго персанальнага ворага. Статыстыка арыштаў Кіза прароста шакіруе (толькі за тыдзень напярэдадні выбараў яго затрымлівалі тры разы). Не менш цікавыя і артыкулы, па якіх яго спрабавалі асудзіць: згвалтаванне, здрада радзіме, замах на жыццё прадстаўніка ўлады, несанкцыянаваныя мітынгі і г.д.

Апошні раз галоўны ўгандыйскі апазіцыянер патрапіў пад раздачу ў дзень выбараў. Дасюль не вядомыя дэталі хапуна. Некаторыя крыніцы кажуць, што Бесіджы арыштавалі на вуліцы, калі ён спрабаваў прыпыніць правакацыю, падчас якой ад яго імя заклікалі да вулічных пратэстаў. Іншыя СМІ паведамляюць, што лідара апазіцыі ўзялі па месцы жыхарства ў рамках прэвентыўнай аперацыі супраць магчымых акцый пратэсту, якія, быццам, планаваліся на вечар дня галасавання. Ужо будучы за кратамі, апазіцыйны лідар даведаўся, што атрымаў на выбарах 35 працэнтаў. Паводле назіральнікаў, лічба намаляваная, паколькі крызіс у краіне падарваў у шматлікіх угандыйцаў веру ў тое, што «бананавая плантацыя» Ёверы можа даваць ураджай.

Тым не менш, пакуль моцных унутраных пратэстаў супраць арышту Кіза прэса не чакае. У тым ліку з-за стаўлення міжнароднай супольнасці, якой вельмі важна геапалітычная стабільнасць у рэгіёне, што мяжуе з Самалі — фарпостам радыкальнага ісламізму ў Афрыцы. Акрамя таго, Уганда сама надае вайсковую падтрымку сілам ААН, які змагаюцца ў Самалі супраць ісламскай міліцыі. Сыходзячы з гэтага, хутчэй за ўсё, рэакцыя Захаду абмяжуецца канстатацыяй факту электаральнай карупцыі і патрабаваннем вызваліць Бесіджы.

Аднак гэта не значыць, што пяты тэрмін Ёверы будзе бясхмарны. Палітолагі прагназуюць хуткі рост палітычнай эскалацыі ў цэнтральнай Афрыцы праз шэраг фактараў: экспансія Пекіну, этнічныя канфлікты ў суседняй Дэмакратычнай Рэспубліцы Конга на фоне прэзідэнцкіх выбараў, рост ісламскага экстрэмізму. Да таго ж Мусевені не хавае, што рыхтуе перадачу ўлады. Мяркуецца, што праз пяць год ён паспрабуе прасунуць на пасаду прэзідэнта свайго сына, што, безумоўна, абвострыць сітуацыю ў краіне. Не кажучы пра тое, ад самога Ёверы можна чакаць любога фокусу.

# «Оскар» як трыбуна

Алег НОВІКАЎ

**Цырымонія ўручэння «Оскара» — гэта не толькі інтрыга, каму дастанецца ўзнагарода. Мільённая аўдыторыя таксама сочыць за прамовамі пераможцаў, што даўно сталі часткай амерыканскай масавай культуры, і нават фактарам палітычнага жыцця.**



Фота www.bettingexpert.com

Паводле статуту цырымоніі ўручэння прэміі «Оскар», актор, які атрымаў прэмію, павінен сказаць невялікую прамову. Паступова невялікі спіч пасля ўручэння «Оскара» стаў адной з важных частак шоў. Тое, што кажуць лаўрэаты, часта становіцца крылатымі словамі, афарызмамі. Самі прамовы аналізуюцца і ранжыруюцца ў спецыяльныя рэйтынгі — напрыклад, дзесяць найлепшых прамоваў і дзесяць самых кепскіх.

У топ самых кепскіх оскараўскіх прамоваў, як правіла, трапляюць занадта доўгія маналогі. Спачатку ніякіх патрабаванняў да рэгламенту не было. Таму спіч мог цягнуцца колькі заўгодна. Найбольш доўгай была прамова Грыр Гарсон, якая ў 1942 годзе зацягнулася на сем хвілін. Гэтая прамова лічыцца самай кепскай у гісторыі цырымоній уручэння «Оскара». Таму нядзіўна, што з часам быў уведзены ліміт на выступы — 45 секунд.

Праўда, занадта кароткія прамовы таксама не вітаюцца. Хаця да аўтаркі самай лаканічнай прамовы асаблівых прэтэнзій няма. Гэта 16-гадовая Пэці Дзюк, якую прызналі лепшай актрысай другога плану ў 1962-м. Яе спіч складаўся толькі са слоў: «Thank you» (англ.: дзякуй). Пасля чаго малая актрыса пакінула сцэну.

Да правальных традыцыйна адносяць выступы, калі лаўрэаты пачынаюць пералічваць тых, каму яны абавязаны трыумфам. Рэкорд тут належыць Мелісе Леа, якая выйграла ў 2009 годзе статуэтку за ролю другога плану. У выступе яна выказала падзяку кожнаму свайму сваяку, пачынаючы з дзядулі і бабулі. Часам замест родных пералічваюць сяброў здымачнай групы, што таксама выглядае сумна. А вось Кларыс Лічмэн — лаўрэат 1971 года за ролю другога плану — увайшла ў гісторыю «Оскара», паколькі ўмудрылася ўзгадаць і падзякаваць суседу, які калісьці дапамог аплаціць ёй нейкія рахункі.

Высмейваючы такія маналогі, каментатары ўсё ж прызнаюць фактар эмоцый. Апантаныя перамогай, некаторыя прэтэндэнты проста губляюцца. Так, Гвінет Пэлтроў — уладальніца «Оскара» 1999-га за фільм «Закаханы Шэкспір» — настолькі моцна расплакалася на сцэне, што выглядала не зусім адэкватна. Хутчэй за ўсё, згубіла пад каскадам эмоцый самакантроль і Анжэліна Джалі, якая сказала, што «зараз знаходзіцца ў стане кахання са сваім братам» (in love with my brother right now).

Ёсць таксама рызыка, што акторы выкінуць нейкі фокус. Можна ўзгадаць, як, пачуўшы пра перамогу ў катэгорыі «лепшы замежны фільм», Джэймс Кэмеран, атрымаўшы дзве статуэткі за «Тытанік», катэгарычна паведаміў аўдыторыі: «Я кароль свету». Проста нешта фантастычнае адкалоў італьянец Раберта Беніні, калі пачуў, што яго стужка «Жыццё цудоўнае» прызнана лепшым замежным фільмам. Спачатку ён забраўся на фатэль, пасля пачаў скакаць, махаць рукамі, крычаць ад шчасця, заразіўшы ўвесь зал атмасферай радасці.

У прынцыпе, такія выхадкі не выпадковыя. Як жартаваў часопіс «The New Yorker», «калі вы прызнаны кінаакадэмікамі як славутасць і не можаце выдаць кранальны тэкст, сярэдні тэкст, і нават банальны, то проста зрабіце нешта вар'яцкае».



**Невялікі спіч пасля ўручэння «Оскара» стаў адной з важных частак шоў. Тое, што кажуць лаўрэаты, часам становіцца крылатымі словамі**

Застаецца ўзгадаць палітызаваныя прамовы. Галівуд заўсёды быў вельмі палітызаваным месцам. Шматлікія акторы, ангажаваныя ў палітычныя і грамадскія ініцыятывы, ператваралі прамовы ў маніфесты. Найбольш правакацыйным лічыцца спіч Ванэсы Рэдгрэйв на цырымоніі 1978 года.

Ванэсу высунулі ў намінацыі «лепшая актрыса» за ролю Джуліі — яўрэйкі, якая ўдзельнічае ў барацьбе супраць нацызму. Паколькі Рэдгрэйв заўжды актыўна падтрымлівала антыімперыялістычны рух, і нават фінансавала рух салідарнасці з Палесцінай, некаторыя сіяніцкія арганізацыі ў ЗША адмоўна паставіліся да навіны пра тое, што актрыса з такім палітычным амплуа мае шанс на «Оскара».

Напярэдадні цырымоніі адбыліся нават сутычкі паміж прыхільнікамі і крытыкамі Ванэсы, якая ў выніку ўсё ж атрымала ўзнагароду. Узяўшы статуэтку, актрыса ўзгадала ў сваёй прамове таксама сваіх апанентаў, назваўшы іх «сіяніцкімі хуліганамі», якія кампраметуюць яўрэяў. Агульнымі сіламі вядоўцаў удалося аднавіць спакойны ход мерапрыемства.

Дэмарш Ванэсы выклікаў не менш спрэчак, чым выхадка Марлона Брандо на «Оскары» 1973-га. Увесну 1973 года, калі праходзіла цырымонія ўручэння «Оскара», уся Амерыка назірала за падзеямі ў пасёлку Вундэд-Ні, дзе група індзейцаў абаранялася ад войска і паліцыі, патрабуючы ад урада вырашэння праблем індзейцаў. Адным з першых у абарону індзейцаў выступіў Марлон Брандо. Ён адмовіўся ад прэміі амерыканскай Кінаакадэміі за ролю ў «Хросным бацьку» ў знак пратэсту супраць негатыўнага вобразу індзейцаў у галівудскіх фільмах. Калі было абвешчана яго імя, на сцэну выйшла дзяўчына ў індзейскай сукенцы. Яна адсунула прапанаваную статуэтку і нешта сказала пра дабрату, шчодрасць і любоў... Уся наступная частка цырымоніі звялася, фактычна, да аднаго — абмеркавання выхадкі Брандо. Лепш за ўсё пажартаваў Клінт Іствуд. «Я нават не ведаю, — сказаў ён, прадстаўляючы «Оскар» за лепшы фільм года. — Можа, мне варта ўручыць яго ад імя ўсіх каўбояў, якіх я забіў у фільмах Джона Форда».

Не абышлося без палітыкі і на «Оскары–2016». Леанарда дзі Капрыё — лаўрэат у намінацыі «лепшы актор» — заклікаў да выратавання клімату. Заклік дастаткова бяскрыўдны. Аднак усё роўна «Оскар–2016» пакінуў прысмак вельмі палітызаванага. Як вядома, напярэдадні афраамерыканскія кінематаграфісты заявілі пра байкот цырымоніі праз адсутнасць у спісе намінантаў-афраамерыканцаў. Праўда, такая пазіцыя хутчэй сведчыць пра статус прэміі «Оскар» і пра тое, што ўвага да цырымоніі і, адпаведна, да прамоваў лаўрэатаў застанецца высокай.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Сі Цзіньпін



Калі верыць сусветнай прэсе, у Кітаі пачалі актыўна ствараць культ асобы старшыні Кітайскай Народнай Рэспублікі (КНР). У якасці доказаў прыводзяцца шматлікія артыкулы апошніх выпускаў афіцыйнай прэсы КНР, якія заклікаюць кітайцаў слухаць і падпарадкавацца Сі Цзіньпіну як сапраўднаму сучаснаму лідару. Брытанскі «Sunday Times» звязвае кампанію папулярызацыі Сі Цзіньпіна з ростам амерыкана-кітайскага супрацьстаяння ў Паўднёва-Кітайскім моры, маўляў, у выпадку абвастрэння канфлікту краіне будзе патрэбны адзін цэнтр прыняцця рашэнняў, у тым ліку адказны за выкарыстанне атамнай зброі. «Sunday Times» таксама прагназуе, што эскалацыя ў Паўднёва-Кітайскім моры будзе мець месца пасля выбараў новага амерыканскага прэзідэнта ў лістападзе. Другія заходнія медыя бачаць у агрэсіўнай рэкламе старшыні Сі праяву ўнутраных апаратных войнаў. Характэрна, што адначасова афіцыёз атакуе лідараў мясцовага камсамолу, які ў цяперашнім Кітаі лічыцца бастыёнам апанентаў Сі Цзіньпіна. Варта нагадаць, што ў хуткім часе адбудзецца партыйны з'езд, на якім будзе абірацца новы склад кіраўніцтва. Новы ранг Сі шмат каму нагадвае вяртанне ў часы Маа, які быў бясспрэчным аўтарытэтам для кожнага кітайца. Дарэчы, шмат хто заўважыў, што ў лексіконе афіцыёзу апанентаў Сі ўсё часцей называюць «банда». Менавіта бандай называў Маа Цзэдун сваіх крытыкаў.

### Мая Санду



Малдоўскі палітык, экс-міністр адукацыі, стала галоўным персанажам апошніх спекуляцый наконт таго, хто можа прыйсці на месца кіраўніка адміністрацыі Малдовы. Нагадаем, што краіна перажывае востры палітычны крызіс, выкліканы татальнай дыскрэдытацыяй партый, якія ўваходзяць у Праеўрапейскі альянс. Падзеннем даверу да альянсу актыўна карыстаюцца прамаскоўскія палітсілы, якія ў выпадку датэрміновых парламенцкіх выбараў могуць разлічваць на 55–60 працэнтаў. У такой сітуацыі прыхільнікі працягу курсу на еўраінтэграцыю Малдовы актыўна шукаюць новых лідараў. З'явілася інфармацыя, што Захад хоча запусціць малдоўскую версію Далі Грыбаўскайтэ — жорсткага прэзідэнта-жанчыну, ролю якой прапануюць Маі Санду, 43-гадовай выпускніцы Гарварду, якая паспела папрацаваць на пасадзе дарадцы выканаўчага дырэктара Сусветнага Банка ў Вашынгтоне. Санду актыўна крытыкуе карумпаваны ўрад Праеўрапейскага альянсу і можа выступіць яму альтэрнатывай. Праблема ў тым, што для раскруткі новых фігур патрэбны час, і Захад будзе вымушаны яшчэ пару месяцаў падтрымліваць цяперашні непапулярны Кабмін і парламент, мімаволі працуючы на рэйтынг прапуцінскіх партый. Таксама не зразумела, як малдаўскі абывацель адрэагуе на тое, што Мая Санду выступае за ўнію Малдовы і Румыніі.

### Сандра Рулафс



Жонка экс-прэзідэнта Грузіі можа ўзначаліць выбарчы спіс вядучай у Грузіі апазіцыйнай партыі «Адзіны нацыянальны рух» на парламенцкіх выбарах увосень. Навіна з шэрагу незвычайных, паколькі Рулафс нават у часы прэзідэнцтва Саакашвілі асабліва ў палітыку не лезла. Гэта звязвалі ў тым ліку з тым, што Сандра, якая да пераезду ў Грузію была грамадзянкай Нідэрландаў і працавала ў структурах ЕС, добра ведае еўрапейскі кодэкс першых лэдзі. Як правіла, апошнія займаюцца філантропіяй, што і рабіла Сандра аж да апошняга часу. У прынцыпе, жонку экс-прэзідэнта, якая, дарэчы, вывучыла грузінскую мову, грузіны любілі. Аднак цяжка сказаць, ці захаваліся дасюль гэтыя сентыменты? Пасля таго, як Саакашвілі падаўся ў эміграцыю, з'явілася шмат кампрамату на сямейную пару. Сандру нават абвінавацілі ў тым, што яна гандлявала дзіцячымі органамі. Хапала інсінуацый наконт таго, што жонка і муж не жывуць разам. Праўда, не выключана, што навіна пра балаціроўку Сандры — папросту піяр партструктуры або зандаж настрояў.






Фота аўтара



# Што пагражае архітэктуры эпохі сацрэалізму

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**У Беларусі будынкі эпохі сацрэалізму, якім нададзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці, пачуваюцца досыць добра: іх даглядаюць, рэстаўруюць ашчадна, хоць і не дужа аглядаючыся на прынцыпы Венецыянскай хартыі. Помнікі ж, якія афіцыйнага статусу не маюць, часта не разглядаюцца як каштоўнасць. Адсюль і гісторыі, кшталту ратавання Асмалоўкі.**

У Польшчы ахова спадчыны сацрэалізму — адносна новая тэндэнцыя. Ідзе пераасэнсаванне эпохі Польскай Народнай Рэспублікі, разам з вектарам «забыцца і адрынуць» гучаць меркаванні «захаваць і памятаць», «гісторыю нельга замазаць». Вялікую ролю ў папулярызацыі сацрэалістычнай архітэктуры адыгрываюць навукоўцы і грамадскія арганізацыі. За мэту-мінімум ставяць захаванне архітэктуры эпохі сацрэалізму да часу, калі яна будзе па-сапраўднаму ацэнена грамадствам.

Палац культуры і навукі заўважыць любы наведвальнік Варшавы. А вось самы маштабны комплекс жылой архітэктуры сацрэалізму — раён вакол вуліцы Маршалкоўскай — менш вядомы. Ён атрымаў назву MDM (скарачэнне ад «Marszałkowska Dzielnica Mieszkaniowa» — «жылы раён Маршалкоўскі»). Для беларусаў ён цікавы падабенствам канцэпцыі да забудовы праспекта Незалежнасці і пасёлка на Трактарным заводзе ў Мінску.

## MDM — варшаўскі Горад Сонца

Раён MDM будаваўся ў 1950–1952 гадах адразу як цэльны комплекс, але з пераважным захаваннем ранейшай планіроўкі вуліц. Таму вакол яго, а часам і ўнутры, сустракаюцца будынкі ранейшых эпох: дамы ў стылі мадэрну, барочны касцёл. Сацрэалістычныя кварталы стваралiся не як спальныя раёны: архітэктары разлічвалі, што людзі будуць там жыць, працаваць, вучыцца, наведваць крамы, цырульні ды кнігарні.








**Для даведкі:**

Сацрэалістычны накірунак у мастацтве СССР быў ухвалены на пленуме ЦК ВКПБ(б) у 1932 годзе, потым распаўсюдзіўся ў краінах сацыялістычнага блоку. Само паняцце з'явілася ўпершыню 23 мая 1932 года ў «Літаратурнай газеце».

MDM пачынаецца ад плошчы Канстытуцыі, абапал якой — два амаль аднолькавыя дамы. Гэты прыём досыць часта сустракаецца ў архітэктуры сацрэалізму. Прыгадваюцца мінскія дамы на плошчы Перамогі ды вежы ля чыгуначнага вакзала. Далей Маршалкоўская ідзе да плошчы Збавіцеля, што знаходзіцца ў самым цэнтры раёна.

Сёння плошча Збавіцеля — істотнае месца гарадскога жыцця. Яно славіцца шматлікімі хіпстарскімі кавярнямі, тут даволі доўга стаяла інсталяцыя «Вясёлка», мішэнь для нападак падчас праварадыкальных маршаў. Калі яе прыбралі, пра гэта пісалі газеты, лёс інсталяцыі хваляваў гараджан.

## Адметнасці польскага сацрэалізму

Рысы, характэрныя для польскай жылой архітэктуры сацрэалізму, сустракаюцца і ў Беларусі: візуальны падзел будынка ў вышыню на 3 часткі, першыя паверхі, запраектаваныя пад аб'екты сацыяльнай інфраструктуры, «цытатнасць» стылю: браліся элементы ранейшай архітэктуры і капіяваліся ў новых будынках. Аздабленне дамоў мае дакладны характар: рабочыя і сяляне з адпаведнымі прыладамі, спартоўцы з інвентаром. Калі кавярня — дык ля ўваходу намаляваныя прадукты, калі аптэка — лекі...

Адметнасць польскага сацрэалізму ў тым, што дэкор браўся з польскіх жа гістарычных горадоў. Напрыклад, атык з Любліна мог «цытавацца» ў Варшаве. З рэнесанснай польскай архітэктуры ўзятая аздабленчая тэхніка сграфіта, калі адзін на адзін наносіліся 2 слаі тынкоўкі рознага колеру і потым прашкрэбваўся малюнак. На будынках эпохі сацрэалізму сюжэты такіх малюнкаў маглі адрозніваца ад рэнесансных.

Сустракаюцца фасады, аздобленыя «варшаўскай цэглай», зробленай з друзу разбураных падчас Другой сусветнай вайны дамоў. Нагадаем, Варшава была зруйнаваная на 80 працэнтаў. Такая цэгла не выкарыстоўвалася для будаўніцтва, была толькі дэкаратыўным элементам.

## Пагрозы сацрэалізму ў Варшаве

Першая пагроза — «агрэсіўны капіталізм». У 2003 годзе ў Польшчы быў прыняты новы закон аб выкарыстанні і добраўпарадкаванні прасторы, які зрабіў неабавязковым генплан забудовы. Могуць існаваць мясцовыя планы, але іх маюць хіба 15% гарадскіх тэрыторый. Звычайна супраць мясцовых планаў пратэстуюць усе: жыхары, інвестары, касцёл. Суадносна, заканадаўча не абмяжоўваецца вышыня забудовы нават паблізу помнікаў архітэктуры. Таму гэта пытанне вырашаецца галоўным кансерватарам ваяводства кожны раз індывідуальна з інвестарамі. А дзе грошы — там не да краявідаў.

Другая пагроза — вялікафарматная рэклама. Білборды закрываюць фасады, мяняюць выгляд дома. Калі будынак унесены ў рэестр помнікаў архітэктуры, то змяшчэнне рэкламы на ім санкцыянуе галоўны рэстаўратар ваяводства. Практычна ўсе будынкі з'яўляюцца прыватнай ці камунальнай уласнасцю, магчымасцяў атрымаць прыбытак з рэкламы вельмі шмат. Таму архітэктарам і рэстаўратарам даводзіцца літаральна змагацца з білбордамі, што псуюць выгляд будынкаў.

Трэцяя — забудоўваюцца прасторныя ўнутраныя дворыкі, якія праектаваліся для адпачынку жыхароў. Нават калі «пашанцуе», і будынак у двары не вышэйшы за навакольныя дамы, частка архітэктурнай задумы страчваецца.

Чацвёртая пагроза — фальсіфікацыя аўтэнтычнасці: умоўна кажучы, калі нешта адвалілася, то, адпаведна Венецыянскай хартыі ў пытаннях захавання і рэстаўрацыі помнікаў і славутых месцаў (прынятая ў 1964-м), страта павінна быць кампенсаваная матэрыялам, адрозным нейкім чынам (колерам, фактурай) ад старога. Яшчэ адзін варыянт — зусім не кампенсаваць страту, закансерваваць будынак і пакінуць, як ёсць. Адпаведна Венецыянскай хартыі, руіны застаюцца руінамі, а не адбудоўваюцца да «замка-цукерачкі», а фасады будынкаў, хай яны і выходзяць на адну з галоўных вуліц горада, не павінны рамантавацца да стану, быццам толькі ўчора былі створаныя. Гэта, канечне, не значыць, што ў цэнтры сталіцы будуць стаяць дамы без вокнаў ці з аблупленай тынкоўкай. Павінна быць бачна, што аднаўленыя элементы — не аўтэнтычныя, і толькі.

Пятая пагроза — якасць ачысткі каменю на фасадзе. Калі чысціць вадой, то на паверхню выходзяць вокісы жалеза, і фасад мяняе колер. Выканаўца прац у Польшчы абіраецца шляхам тэндэру, перавага аддаецца фірме з самым нізкім коштам. Пакуль будынак не ўнесены ў рэестр помнікаў, няма юрыдычных падстаў патрабаваць ад выканаўцы спецыяльных ведаў і вопыту ў галіне рэстаўрацыі.

Фасады пакрываюць сінтэтычнай фарбай, якая не «дыхае», — гэта шостая пагроза. У выніку аздабленне фасадаў псуецца, і часта стары матэрыял ужо немагчыма аднавіць, даводзіцца замяняць. «Дыхае» толькі адмысловая крэмнiевая фарба, але і яе не варта ўжываць для будынкаў, якія першапачаткова не былі пафарбаваныя.

Акрамя таго, існуюць і іншыя пагрозы: знішчэнне дэкору, які збіваецца ці затынкоўваецца, а таксама нелегальныя кандыцыянеры, якія па правілах павінны «хавацца» на балконах і лоджыях, лепш на ўнутраных фасадах. Але часта здараецца, што яны вісяць і ад вуліцы. Ну і замена вокнаў, дзвярэй, шкляных вітрын і вывесак на больш сучасныя, што парушаюць інтэгральнасць (цэльнасць) архітэктурнага ансамблю.

***

Некаторыя пагрозы — універсальныя для помнікаў любога стылю, некаторыя — характэрныя толькі для сацрэалізму. Праблемы з высотнай забудовай добра знаёмыя і нам. Вялікафарматная рэклама ў нас пакуль змяшчаецца пераважна на асобных стэндах. «Фальсіфікацыя аўтэнтычнасці» ў Беларусі назіраецца таксама досыць часта. Праз недахоп сродкаў лягчэй і хутчэй знесці стары будынак і паставіць новы «такі ж», чым гадамі ашчадна рэстаўраваць, вышукваць аўтэнтычныя элементы, што яшчэ можна выратаваць. Фасадам беларускіх архітэктурных помнікаў часта «не шанцуе»: іх і фарбуюць сінтэтычнай фарбай, і тынкуюць, і дэкор збіваюць, і праводзяць цепларэабілітацыю.

# Ігнат Грынявіцкі, альбо проста «Коцік»

Васіль ГЕРАСІМЧЫК

**Сто трыццаць пяць гадоў таму, 1 (13) сакавіка 1881 года ў 15.35 у Зімнім палацы ў Пецярбургу ад атрыманага ранення памёр расійскі імператар Аляксандр II. А праз сем гадзін памёр беларус Ігнат Грынявіцкі, які кінуў бомбу пад ногі цару.**



Усваім запавеце, напісаным за некалькі дзён да смерці, Грынявіцкі пазначыў: «Гісторыя паказвае, што раскошнае дрэва свабоды патрабуе чалавечых ахвяраў».

Сябры запомнілі Грынявіцкага як невысокага шатэна з кучаравай галавой, высокім ілбом, невялікай раслiннасцю на лагодным шырокім твары, які заўважна гаркавіў літару «л», адрозніваўся сціпласцю, быў негаваркі, але схільны да гумару.

Грынявіцкі нарадзіўся ў 1856 годзе ў збяднелай шляхецкай сям'і ў фальварку Басін Свіслацкай воласці Бабруйскага ўезда Мінскай губерні. Паспяхова скончыў Беластоцкую рэальную гімназію, дзе за рахманы нораў яго называлі проста Коцік — пазней гэта зрабілася падпольнай мянушкай Грынявіцкага (таксама мянушкі Ельнікаў і Міхаіл Іванавіч). У 1875 годзе ён паступіў у Пецярбургскі тэхналагічны інстытут.

Студэнцкая моладзь Расійскай імперыі ў гэты час жыла народніцкімі ідэямі руху «хаджэння ў народ» і верыла ў хуткае наступленне лепшага ладу. Грынявіцкі таксама далучыўся да гэтага руху: вёў прапаганду сярод працоўных, збіраў сродкі для дапамогі арыштаваным таварышам, вырабляў падробленыя дакументы, удзельнічае ў працы расійска-польскіх падпольных гурткоў.

Народніцтва распачыналася як мірная ініцыятыва моладзі, да якой уладамі прымяняліся жорсткія рэпрэсіі. Толькі ў 1874 годзе было арыштавана 8000 чалавек па абвінавачванні ў рэвалюцыйнай прапагандзе. Сімвалам разгорнутага Расійскай імперыяй паліцэйскага тэрору стаў «працэс 193-х» у 1877–1878 гадах. Да гэтага часу многія з арыштаваных знаходзіліся за кратамі ўжо 4 гады. 43 чалавекі памерлі яшчэ да пачатку суда, 12 скончылі жыццё самагубствам у турме, 38 з'ехалі з глузду з-за доўгага турэмнага адзіноцтва. Нягледзячы на тое, што суд апраўдаў 80 іншых удзельнікаў «працэсу 193-х», па асабістаму загаду імператара Аляксандра II яны былі адпраўленыя ў ссылку.

У адказ на арэну грамадзянскага супраціву выйшлі арганізацыі, якія не спыняліся перад тэрарам у змаганні з самадзяржаўем.

28 студзеня 1878 года Вера Засуліч страляла ў пецярбургскага генерал-губернатара Трэпава, а 4 жніўня 1878 года Сяргей Сцяпняк-Краўчынскі заколаў кінжалам шэфа жандараў Мязенцава.



Аляксандр II

У чэрвені 1879 года рэвалюцыянеры вынеслі смяротны прысуд «цару-вешальніку» Аляксандру II.

Менавіта на хвалі паліцэйскага тэрору, у 1879 годзе, Ігнат Грынявіцкі далучыўся да арганізацыі «Народная воля» і стаў адным з заснавальнікаў яе беларускай фракцыі, праграма якой пазней была надрукавана ў часопісе «Гоман» (1884), дзе было абвешчана права беларускага народа «кіраваць сабою» і «распараджацца сваім лёсам». Ігнат увайшоў таксама ў рэдакцыю падпольнай «Рабочай газеты».

> На хвалі паліцэйскага тэрору Грынявіцкі далучыўся да «Народнай волі» і стаў адным з заснавальнікаў яе беларускай фракцыі

У адносінах да прадстаўнікоў польскіх арганізацый, якія спрабавалі завербаваць Грынявіцкага ў свае шэрагі, Ігнат адказваў, што ён літвін, а не паляк. Пра этнічнасць Грынявіцкага расіянін Л.А. Ціхаміраў, які знаходзіўся ў эміграцыі ў 1880-я гады, запісаў наступнае: «Поляки упорно называли его Грюневецкий и причисляли к своим. Он сам, однако, называл себя литвином, а не поляком; по-русски говорил прекрасно, как и по-польски, и был вполне русский народник. Официально его, конечно, нужно считать поляком, потому что по вероисповеданию он был католик. Тем не менее Гриневицкий был поляк сильно «помоскаленный», и большая часть его студенческих друзей, с которыми он мечтал о поселениях «в народе», были кровные русские или «помоскаленные» поляки».

На папрокі палякаў Грынявіцкі адказваў: «Калі вы ў лес адправіцеся, я буду тады з вамі. А цяпер, калі вы нічога не робіце, я буду працаваць на справу вызвалення».

Грынявіцкі быў шчырым каталіком, аднак лічыў, што самаўладдзе ў Расійскай імперыі — ліха, у змаганні з якім нельга спыняцца ні перад чым, нават ахвяруючы ўласным жыццём.

Восенню 1880 года ён увайшоў у спецыяльны атрад па падрыхтоўцы замаху на Аляксандра II, які ўзначальвала Соф'я Пяроўская. Іх задачаю было штодзённае назіранне за перамяшчэннямі цара, вывучэнне маршрутаў яго руху.

У гэты час чарговая хваля рэпрэсій абрынулася на Пецярбург і Маскву, і ў студзенілютым многія прадстаўнікі «Народнай волі» былі арыштаваныя, сярод якіх 27 лютага апынуўся і адзін з кіраўнікоў арганізацыі — Андрэй Жэлябаў. Аднак гурток Соф'і Пяроўскай заставаўся на волі і праводзіў апошнія падрыхтоўчыя мерапрыемствы перад рэалізацыяй плана забойства цара.

Да ранку 1 сакавіка праца была завершана: бомбы падрыхтаваныя, ролі размеркаваныя.



Ігнат Грынявіцкі

Згодна плану, у забойстве цара бралі ўдзел 4 чалавекі: Ігнат Грынявіцкі, Мікалай Рысакоў, Цімафей Міхайлаў і Іван Емяльянаў, якія ў 8 гадзін, напярэдадні наведвання Аляксандрам II манежу, былі на сваіх пазіцыях. Аднак абставіны склаліся так, што цар паехаў іншай дарогай. Пяроўская здолела арганізаваць людзей, і загадала тым змяніць пазіцыі.

Царскі экіпаж, узмоцнены канвоем, рухаўся да Екацярынінскага канала, калі бомбу ў яго кінуў Мікалай Рысакоў. У выніку быў забіты адзін казак аховы, а самога Рысакова схапілі. Аляксандр II вылез з экіпажа і стаў назіраць за збіццём казакамі схопленага рэвалюцыянера. У гэты час да цара наблізіўся Ігнат Грынявіцкі, які застаў прысутных знянацку, і кінуў Аляксандру II бомбу пад самыя ногі.

Імператар быў смяротна паранены і хутка памёр. Грынявіцкі памёр у шпіталі, увесь у крыві і ранах пасля выбуху. На ўсе спробы даведацца яго імя, Ігнат не адказваў, і толькі незадоўга да смерці адрывіста сказаў: «Не ведаю». Ён так і не выдаў уласнага прозвішча, каб затрымаць паліцыю і даць час сваім сябрам збегчы.

За некалькі дзён да замаху на Аляксандра II Ігнат Грынявіцкі пакінуў свой запавет:

*<...> Александр II должен умереть. Дни его сочтены.*

*Мне или другому кому придется нанести страшный последний удар, который гулко раздастся по всей России и эхом откликнется в отдаленнейших уголках ее, — это покажет недалекое будущее.*

*Он умрет, а вместе с ним умрем и мы, его враги, его убийцы.*

*Это необходимо для дела свободы, так как тем самым значительно пошатнется то, что хитрые люди зовут правлением — монархическим, неограниченным, а мы — деспотизмом...*

*Что будет дальше?*

*Много ли еще жертв потребует наша несчастная, но дорогая родина от своих сынов для своего освобождения? Я боюсь... меня, обреченного, стоящего одной ногой в могиле, пугает мысль, что впереди много еще дорогих жертв унесет борьба, а еще больше последняя смертельная схватка с деспотизмом, которая, я убежден в том, не особенно далека и которая зальет кровью поля и нивы нашей родины, так как — увы! — история показывает, что роскошное дерево свободы требует человеческих жертв.*

*Мне не придется участвовать в последней борьбе. Судьба обрекла меня на раннюю гибель, и я не увижу победы, не буду жить ни одного дня, ни часа в светлое время торжества, но считаю, что своей смертью сделаю все, что должен был сделать, и большего от меня никто, никто на свете требовать не может.*

*Дело революционной партии — зажечь скопившийся уже горючий материал, бросить искру в порох и затем принять все меры к тому, чтобы возникшее движение кончилось победой, а не повальным избиением лучших людей страны.*

***февр. 1881 г. Игнатий Гриневицкий.***

15 мая пяцёра ўдзельнікаў забойства Аляксандра II былі павешаныя на запоўненай натоўпам Сямёнаўскай плошчы ў Пецярбургу: Андрэй Жэлябаў, Соф'я Пяроўская, Мікалай Кібальчыч, Мікалай Рысакоў і Цімафей Міхайлаў, якога вешалі тройчы, паколькі два разы пад ім рвалася вяроўка. Да смерці была прысуджана і не ўдзельнічаючая непасрэдна ў замаху Гэся Хельфман, якая была на чацвёртым месяцы цяжарнасці. Яна памерла ад запалення страўніка.

Галаву Ігната Грынявіцкага змясцілі ў слоік са спіртам і выставілі ў холе пецярбургскай камендатуры паліцыі. Перад ім павінны былі праходзіць усе арыштаваныя, што накіроўваліся на допыт.

***P.S.*** *19 лютага 1885 года скончыла жыццё нявеста Грынявіцкага Соф'я Мюлер, якая атруцілася дустам.*

# Графічная мініяцюра Эстоніі — у Мінску

Марат ГАРАВЫ

**У мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» адкрылася выстава «Miniprint Талін — Мінск 2016», прысвечаная Дню Незалежнасці Эстоніі і арганізаваная сумесна з пасольствам Эстонскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь.**



Кюллікі Ярвіла. Дзьмуць на дзьмухавец



Гіта Тээару. Цішыня

Гэта першы праект такога кшталту ў Беларусі. Раней выстава дэманстраваліся на радзіме — у Таліне ў галерэі «Вабадусе» (2011) і ў Раваніемі ў галерэі «Напа» (2012), а таксама ў Расіі — у Пскоўскім дзяржаўным аб'яднаным гісторыка-архітэктурным і мастацкім музеі-запаведніку (2014) і ў Маскве ў выставачнай зале «Тушына» (2015).

На выставе 50 творцаў дэманструюць больш за 120 графічных мініяцюраў у розных тэхніках і школах, што даюць шырокае ўяўленне аб стылёвых асаблівасцях кожнага з аўтараў і прадстаўляюць адну з граняў сучаснага графічнага мастацтва Эстоніі.

Пасол Эстоніі ў Беларусі Майт Марцінсон выказаў вялікае задавальненне тым, што так шмат беларускіх аматараў мастацтва, мова якога зразумелая ўсім, сабраліся, каб пазнаёміцца з графікай свайго паўночнага суседа. «Дыпламатыя працуе для таго, каб пры недастатковым разуменні можна было знайсці агульную мову», — адзначыў дыпламат. Ён паабяцаў у бягучым годзе яшчэ «нейкія сюрпрызы» ў галіне эстонска-беларускага культурнага супрацоўніцтва і выказаў меркаванне, што на беларускай глебе можа дамаўляцца.

Намеснік міністра замежных справаў Беларусі Алена Купчына падкрэсліла, што і з Беларуссю можна дамаўляцца. На думку спадарыні Купчынай, культурныя стасункі дзвюх краінаў спрыяюць збліжэнню беларускага і эстонскага народаў. Дыпламат павіншавала эстонскіх братоў з Днём Незалежнасці і пажадала народу Эстоніі самага найлепшага.

«Яшчэ з савецкіх часоў у маё жыццё ўвайшла творчасць такіх вядомых эстонскіх графікаў і жывапісцаў, як Війве Толі і Марэ Вінт, Андо Кэскюла, Рэйн Тамік і Яан Элькен», — сказаў старшыня Беларускага саюзу мастакоў Рыгор Сітніца. І звярнуў увагу на тое, што школа эстонскай графікі здаўна мае сусветнае прызнанне.

Выстава працуе ў галерэі «Інстытут культуры» да 14 сакавіка.

# Цёплае свята Мэрцішор

Лявон ЦЕЛЕШ

**На працягу некалькіх стагоддзяў малдаване ладзяць цудоўнае вясновае свята Мэрцішор, якое традыцыйна адзначаюць з 1 па 12 сакавіка.**



Спявае «Плай»

Людзі дораць адзін другому ўпрыгожванні — мэрцішоры — дзве кветачкі ці сардэчкі чырвонага і белага колеру са словамі: «Жывіце і квітнейце, як яблыні ў сэрцы вясны». Мэрцішоры яны прыколваюць на адзенне з левага боку, каля сэрца. А пасля свята амулеты абавязкова прывязваюць да галінкі дрэва, і тады лічыцца, што чалавек увесь год апякуецца гэтай упрыгожанай раслінай. Дарэчы, назва «мэрцішор» з малдаўскай на беларускую мову перакладаецца як «сакавік».

Свята Мэрцішор акружана хвалюючымі прыгожымі легендамі. Вось адна з іх.

Першага сакавіка Прыгажуня-Вясна выйшла на ўзлесак. Яна азірнулася і ўбачыла ў кустах цярноўніку маленькую пралеску, якая спрабавала прабіцца скрозь снег. Добрая Вясна вырашыла дапамагчы кветачцы, пачала расчышчаць снег і рассоўваць калючыя галінкі. Гэта ўбачыла Зіма і раз'юшылася: яна нагнала моцны марозны вецер і снег, каб знішчыць пралеску. Вясна прыкрыла кветачку рукамі, і параніла свае пальчыкі аб калючкі. Кропелька крыві ўпала на пралеску, і гэта дало сілы кветцы вярнуцца да жыцця. Так Вясна перамагла Зіму, а мэрцішоры пачалі сімвалізаваць пунсовую кроў на снезе.



У Малдове напачатку сакавіка ўжо ў 50-ы раз адбудзецца Міжнародны фэст вясны і музыкі «Мэрцішор». Фэст прыцягвае мноства таленавітых калектываў і індывідуальных выканаўцаў з розных куточкаў свету.

Дарэчы, у Беларусі пражывае больш за 4 тысячы малдаван. І вось ужо на працягу некалькі гадоў прадстаўнікі малдаўскай дыяспары 1 сакавіка збіраюцца ў Мінску, каб адзначыць гэтае цудоўнае цёплае свята вясны.

Пашчасціла і мне прысутнічаць у якасці госця на гэтым свяце, арганізатарам якога выступаюць прадстаўнікі малдаўскай дыяспары ў Беларусі, рэспубліканская грамадская ўстанова «Таварыства малдаван» (старшыня Антаніна Валько) пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Малдова ў Рэспубліцы Беларусь. Уражанні незабыўныя!

Вось і сёлета, 1 сакавіка, у актавай зале цэнтра Нацыянальных культур Мінска нашы сябры-малдаване сабраліся, каб адзначыць гэтае цудоўнае свята — Свята Вясны Мэрцішор.

Свята адкрыў надзвычайны паўнамоцны пасол Рэспублікі Малдова Георгій Мікалаевіч Хіаарэ. Ён і адзначыў, што гістарычныя карані Мэрцішора выходзяць яшчэ з часоў Рымскай імперыі, калі Новы год адзначалі 1 сакавіка, а сучаснае гучанне свята набыло ў Малдове 50 гадоў таму, у 1966 годзе. З віншаваннямі звярнуўся да гасцей і гаспадароў свята і пасол Румыніі ў Рэспубліцы Беларусь Віарэл Машану.

Упрыгожылі свята цудоўныя песні вакальнага гуртка «Плай», выступленні танцавальнага калектыву «Букурыя». Цікавымі былі нумары Дзмітрыя Ліку, які спачатку праспяваў малдаўскую песню «Кодры», а затым на флейце выканаў песню «Явар і каліна» на словы Янкі Купалы. Сямейныя пары з Дзяржыншчыны Васіль Семянюк з жонкай Нінай і Сяргей Ціханаў з Аленай выканалі дзве песні на беларускай мове на словы В. Семянюка, музыка С. Ціханава. Дарэчы, за музыку да песні «Беларусь — Малдова» (словы В. Семянюка) пасол Малдовы ўручыў Сяргею Ціханаву падзячнае пісьмо.

У гэты дзень прагучала шмат цудоўных вершаў і песень. У тым ліку і ў выкананні кіраўніцы малдоўскай дыяспары ў Беларусі Антаніны Валько.

Са святам Вясны і добрага вам настрою!

КВИТАНЦИЯ

ИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)
Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926
(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня

Всего

Кассир

## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём)

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл. код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр
З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **32 000** руб., **квартала — 90 000 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Колб Аксана Мікалаеўна**
Стыль-рэдактар
**Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 208

Падпісана да друку 04. 03.2016. 8.00.
Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.